*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 51 (839) 26 СНЕЖНЯ 2007 г.

# З НОВЫМ 2008 ГОДАМ!




**Маляўнічыя беларускамоўныя пано сустракаюць гасцей старажытнага Нясвіжа на ўсіх уездах у горад. Гэтая традыцыя падтрымліваецца тут з году ў год.**
**На здымку: пано на ўездзе з боку Сейлавічаў і Навасёлкаў.**

## Арцыбіскуп Менска-Магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч звярнуўся да вернікаў з Калядным пасланнем па-беларуску




25 снежня ва ўсіх касцёлах Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі было зачытана Каляднае пасланне арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча. Пасланне чыталася на беларускай мове.

У адным з фрагментаў пaслання сказана, што Новы 2008 год у "душпастырскай праграме Каталіцкага Касцёла на Беларусі будзе праходзіць пад дэвізам: "Слова Божае — крыніца надзеі".

Вельмі важна, што каталіцкі касцёл у Беларусі нясе Слова Божае словамі беларускімі. У гэтым вялікі спадзеў і вялікая надзея Беларусі. Калі да людзей дойдзе Слова Божае, то можа да іх дойдзе і разуменне таго, што і тая мова, на якой даносіцца гэтае Слова, таксама дадзена ад Бога, і немагчыма з шанаваннем адносіцца да зместу і з занядбаннем да формы. Мова - гэта вопратка думкі. У беларускім выпадку мова - гэта яшчэ і вопратка веры.




**Пад Новы год Белпошта выпусціла святочны блок з дзвюх марак. Маркі выкананы на навагоднія сюжэты.**

## Шаноўнае спадарства!

**Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны віншуе Вас з надыходнымі зімовымі святамі: Калядамі, Днём Божага Нараджэння і Новым 2008 годам.**

**Жадаем вам моцнага здароўя, невычэрпнага аптымізму, натхнення ў працы на карысць Бацькаўшчыны і асабістага шчасця.**

**Будзем разам!**

## Шаноўныя Калегі, дарагія сябры МАБ!

**Зычым Вам радаснага, светлага Нараджэння Хрыстова і шчаслівага Новага года!**

**Няхай наступны 2008 год стане для Вас годам дасягнення пастаўленых мэтаў і здзяйснення ўсіх Вашых самых смелых планаў і задум.**

**Ад шчырага сэрца жадаем, каб радасны настрой святочных навагодніх і калядных дзён суправаджаў Вас праз увесь новы год.**

**Здароўя, шчасця Вам і Вашым родным, радасці і любові, ладу і дабрыні ў Вашых дамах!**

З віншаваннямі
Сяргей Запрудскі,
Таццяна Рамза.

## *ШАНОЎНЫЯ І ДАРАГІЯ СУАЙЧЫНЬНІКІ - БЕЛАРУСЫ*

***Таварыства беларускай культуры ў Літве віншуе вас і вашых блізкіх са Святымі Калядамі і Новым 2008 годам.***

***Ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, асабістага шчасця, поспехаў у працы, усім нам хутчэй дачакацца вольнай, незалежнай і дэмакратычнай Бацькаўшчыны Беларусі.***

***Рада ТБК.***



№ 51 (839) 26 СНЕЖНЯ 2007 г. наша слова

Незаўважаны юбілей

*Эвеліна Блінава*

# ЛІНГВІСТЫЧНЫ АНАЛІЗ ВЕРША МАКСІМА БАГДАНОВІЧА “ПАГОНЯ”
## (90 гадоў першай публікацыі верша)

“Пагоня” — палымяны, высокапатрыятычны твор беларускай літаратуры. Як пісалі даследчыкі творчасці паэта, гэты верш адзін з самых тэмпераментных і драматычных твораў, “адзін з найвышэйшых узлётаў Максімавага натхнення... Твор народжаны зацяжным і запаветным болем за Беларусь”.

Упершыню верш быў надрукаваны 30 лістапада 1917 г. у газеце “Вольная Беларусь”, № 32. У савецкія гады, адзначаў А.Кльшка, верш то знікаў з Багдановічавых зборнікаў, то зноў паяўляўся. Знікаў тады, калі “ідэалагічная пятля зацiскала” і зноў друкаваўся, “калі хоць трошкі давала дыхаць нацыянальнай ідэі”.

На жаль, многім пакаленням вучняў, навучэнцам педтэхнікумаў, студэнтам-філолагам педінстытутаў і універсітэта рэспублікі так і не давялося ў свой час пазнаёміцца з гэтым дыяментам беларускай паэзіі: твор не быў уключаны ні ў праграмы агульнаадукацыйных школ, ні вышэйшых навучальных устаноў. У наш час ён як бы нарадзіўся нанова, яго чытаюць і вывучаюць, ён стаў песняй-гімнам, бо тэма верша — любоў да Бацькаўшчыны, боль за яе, прысуд здраднікам-адшчапенцам, гатоўнасць, калі спатрэбіцца, аддаць сваё жыццё за Радзіму — надзённая, актуальная. І сёння сапраўдныя патрыёты Беларусі чуюць у сваіх сэрцах трывогу і боль за Радзіму, яе будучыню, верацъ у адраджэнне беларускай нацыі.

Палемічна-завостраны, грамадзянска-пафасны верш сёння стаў прадметам увагі і вывучэння даследчыкаў беларускай літаратуры, літаратурнай крытыкі. Але каб глыбока унікнуць у змест твора, зразумець яго ідэйную накіраванасць, неабходна прааналізаваць тыя моўныя сродкі, пры дапамозе якіх з’явіўся твор вялікай мастацкай сілы. Зробім спробу лінгвістычнага аналізу верша на ўсіх узроўнях: лексічным, граматычным, гукавым, метрычным, не забываючы на ўзаемадзеянне ўсіх элементаў мастацкага тэксту, цэласнасці яго вобразнай структуры. Прывядзём твор поўнасцю, каб адчуць завершанасць яго кампазіцыі і гучання, адзінства зместу і формы:

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах. —
Ўспомню Вострую Браму святую
І ваякаў на грозных канях.

У белай пене праносяцца коні, —
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

У бязмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады.
Вы за кім у пагоню спяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо яны, Беларусь, панясліся
За тваімі дзяцьмі уздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?

Бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці-Краіна!
Не усцішыцца гэтакі боль..,
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь...

Усё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

Адной з задач лінгвістычнага аналізу тэксту з’яўляецца лінгвістычнае каментаванне — тлумачэнне слоў, выразаў, граматычных канструкцый. Лінгвістычнае каментаванне найчасцей неабходна сумяшчаць з экстралінгвістычны каментаром, асабліва калі аўтар не з’яўляецца нашым сучаснікам або калі наш сучаснік апісвае мінулыя эпохі.

Экстралінгвістычны каментар — гэта тлумачэнні, звязаныя з гісторыяй краіны, народа, яго побытам, культурай і іншымі бакамі жыцця той эпохі, якая адлюстравана ў творы. Гэта канкрэтныя тлумачэнні імёнаў, геаграфічных назваў, устарэлых рэалій і паняццяў.

Аналізуючы аерш “Пагоня”, у першую чаргу трэба спыніцца на ўласных назвах і гісторыка-геаграфічных паняццях — Вострая Брама, Пагоня, Літва /у тэксце — у спалучэнні “Літоўскай Пагоні”/, якія былі мала вядомыя ці незразумелыя шырокаму чытачу.

У аўтографе паэт дае такі каментар: *“У старой Вільні на муру Гострай Брамы высечаны герб мястовы — ваякі на імкнучых конях. Герб гэты Вільня атрымала яшчэ за часам Вялікага княства Літоўскага, і завецца ён Літоўскай пагоняй”* .

Што ж такое Вострая Брама? Чаму менавіта пра яе ўспамінае аўтар?

Вострая Брама — адна з дзевяці брамаў гарадской сцяны ў Вільні, якая захавалася да нашых дзён. Узнікла яна напачатку XVI ст. як найкаштоўнейшае архітэктурнае збудаванне абарончага значэння. Назву атрымала ад вуліцы, што ёю замыкалася, і ад усяго ўсходняга канца Вільні, што меў клінападобную форму, а вострая вяршыня гэтага кліна ўпіралася ў браму. У 1617 г. над Вострай Брамай была пабудавана капліца, у якую перанеслі цудатворны абраз “Маці Боскай Вострабрамскай”. Веданне гэтых фактаў дае магчымасць зразумець і спалучэнне назвы “Вострую Браму” з азначэннем “святую” .

У апошнія гады ў перыядычным друку шырока распаўсюджаны працы, артыкулы, у якіх даследчыкі сцвярджаюць, што на тэрыторыі сучаснай Баларусі у глыбокай старажытнасці ў раён.е верхняга Панямоння паміж Менскам і Навагарадкам (сучасны Навагрудак) жыло племя літва, якое асімілявалася ў беларусаў. Беларусы аж да канца XIX ст. працягвалі называць сябе “ліцвінамі”. Назва Літва была перанесена пазней на Захад, дзе жыло племя жмудзь. А канчатковае замацаванне за Жамойцю назвы “Літва” у форме “Летува” афіцыйна адбылося у лютым 1918 г. Такім чынам, Літоўская Пагоня — гэта назва не чужая, не суседняя, а свая, народжаная на зямлі нашых продкаў.

Дзяржаўным гербам Вялікага Княства Літоўскага з другой паловы XIII ст. стала выява ўзброенага рыцара на кані — “Пагоня”. Лічаць, што спачатку яна была гербам Полацка і Навагарадка. У часе Грунвальдскай бітвы 1410 г. пад сцягамі з гербам “Пагоня” змагаліся з ворагамі ваяры Вялікага Княства Літоўскага.

Іншы раз чуем у песні радкі “Старадаўняй Крывіцкай Пагоні” замест “Старадаўняй Літоўскай Пагоні”, як гэта падаецца ў вершы паэта. У газеце “Літаратура і мастацтва” за 24 лістапада 1992 г. змешчаны артыкул дырэктара музея М. Багдановіча Алеся Бяляцкага, у якім ён тлумачыць, што існаваў варыянт рукапісу “Пагоні”, дзе рукою М. Багдановіча напісана “Крывіцкай Пагоні”. Варыянт гэты хутчэй за ўсё знаходзіўся ў тых рукапісах паэта, што ў час вайны зніклі з Акадэміі навук. Такім чынам, мы маем пацверджанне, што паняцці **Літоўская** і **Крывіцкая** для Багдановіча сінанімічныя.

Высветліўшы значэнні ўласных назваў, якія ўжываюцца ў тэксце верша, можна перайсці да лінгвістычнага аналізу, ”мэта якога выявіць тыя моўныя сродкі, пры даламозе якіх выражаецца ідэйны і звязаны з ім эмацыянальны змест мастацкага таора”. Зробім яго спачатку на лексічным узроўні — прааналізуем слова, яго значэнне, стылістычную фукцыю. Пачнём з назвы твора — “Пагоня”. Яна дакладная, лаканічная. У аснове яе — сімвал, герб. Але назву верша нельга разумець адназначна. Звернемся да “Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы” /ТСБМ/. Лексема **пагоня** мае ў сучаснай беларускай мове некалькі значэнняў: І. Пераслед таго, хто ўцякае; 2. Адзін чалавек або група людзей, якія пераследуюць каго-н.; 3. перан. Моцнае жаданне атрымаць што-н., дабіцца чаго-н., Імкненне да чаго-н. /т.3/. Значэння ‘сімвал, герб’ слоўнік не фіксуе, бо на час выдання слоуніка /1979 г./ выява пагоні не выкарыстоўвалася як дзяржаўны герб. Які ж сэнс паклаў аўтар у аснову назвы твора? Зразумела, што ён значна шырэйшы за кожнае са значэнняў, прыведзенае ў слоўніку. Пагоня — гэта боль за Маці-Краіну, за яе лёс, вера ў тое, што ніхто не зможа спыніць, стрымаць той сілы, якая пераможа ўсё на сваім шляху. Сэнс назвы бліжэй да трэцяга, пераноснага значэння, але ён больш глыбокі, пашыраны.

У тэксце верша слова **пагоня** ключавое, яно сустракаецца тройчы. У двух выпадках у спалучэнні з прыметнікам-азначэннем ***Літоўскай***, утвараючы тэрміналагічнае словазлучэнне — уласную назву:

Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

Гэтыя радкі паўтараюцца без змен двойчы у другой страфе верша і завяршаюць яго ў апошняй. Да словазлучэння *Літоўскай Пагоні* даецца яшчэ адно азначэнне — ***Старадаўняй***. У ТСБМ чытаем: **старадаўні** — ‘які існуе з далёкіх часоў, захаваўся ад далёкага мінулага’. У гэтым азначэнні — легендарнае мінулае роднага краю, сувязь эпох і пакаленняў.

Вы за кім у пагоню спяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Тут слова **пагоня** напісана з малой літары і ўжываецца са значэннем ‘пераслед таго, хто ўцякае’. Ваякі на грозных конях з сівой мінуўшчыны спяшаюцца сёння за тымі, хто выракся Беларусі, прадаў і аддаў яе ў палон. Паэт нагадвае пра вялікую і слаўную гісторыю краіны, пра нашых продкаў, якія самааддана абаранялі сваю Бацькаўшчыну, верна служылі яе інтарэсам.

Верш напісаны ў час, калі адбывалася станаўленне новай /сучаснай/ беларускай літаратурнай мовы, вышэпацоўваліся яе нормы. І можна толькі здзіўляцца і захапляцца тым, што лексіка верша, граматычныя формы, за выключэннем ***умерці*** і ***лятуць*** поўнасцю адпавядаюць сучасным лексічным і граматычным нормам, а лексічныя сродкі вобразнасці і экспрэсіі надзвычай багатыя, разнастайныя і насычаныя.

Спынімся на аналізе слоў, якія належаць да адной семантычнай групы. — ***радзімая старонка, радзімая краіна, Беларусь, Маці родная, Маці-Краіна:***

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За **краіну радзімую** жах...
Мо яны, **Беларусь**, панясліся
За тваімі дзяцьмі уздагон...
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб **радзімай старонцы** баліць...

Выдзеленыя словы і словазлучэнні сінонімы да слова **Радзіма**. Ужыванне іх дазволіла перадаць эмацыянальны настрой, узрушанасць душы лірычнага героя, шчырую сыноўнюю любоў да яе, і разам з тым пазбегнуць паўтораў, таўталогіі. Чырвонай ніццю праз увесь верш праходзіць трывога і боль за самае дарагое і роднае — Маці-Краіну.

**Радзімая старонка**... У ТСБМ лексема ***радзімы*** падаецца з паметай *нар.-паэт.* Родны.

**Родны.** 1. Які знаходзіцца ў кроўнай роднасці па прамой лініі; 2. *у знач. наз.* родныя, сваякі; 3. Звязаны з месцам нараджэння каго-н. /пра горад, край і пад./; 4. Дарагі, блізкі сэрцу.

Словазлучэнне ***Маці родная*** аўтар ужывае з пераносным значэннем, але ўсе тры значэнні лексемы ***родны*** сэнсава звязваюцца з паняццем ***Радзіма-Маці*** . Маці дарагая і блізкая кожнаму чалавеку, а таму асацыяцыя закакамерная і зразумелая. Нельга не звярнупь увагі на словы, якія ідуць у кантэксце пасля, — ***Маці-Краіна.*** Гэта зварот да самага запаветнага з дзяцінства, зварот-маленне памагчы, прыняць як сына, дазволіць зрабіць усё дзеля Радзімы, а калі трэба, то і памерці за яе. Як знак вялікай пашаны і любові да Радзімы-Маці словы ***Маці, Маці-Краіна*** напісаны з вялікай літары, як і займеннікі ***Ты***, ***Цябе***, што ўжываюцца як адпаведнікі слоў ***Маці родная, Маці-Краіна!***

У творы назіраем яшчэ некалькі сінанімічных радоў. Так вельмі ёмісты дзеясловы сінанімічны рад: ***праносяцца, рвуцца, мкнуцца, лятуць***. У тэксце яны аб’яднаны адным паняццем *‘вельмі хутка рухацца, ехаць, бегчы, імчацца’* і з’яўляюцца кантэкстуальнымі сінонімамі.

У другім дзеяслоўным сінанімічным радзе *не разбіць, не спыніць, не стрымаць* словы сэнсава канцэнтруюць усе адценні значэнняў сінанімічнага рада, даводзяць да кульмінацыі сэнсаву напоўненасць кожнай лексемы: І. Спыніць, затрымаць на месцы каго-н., што-н.; 2. Не даць рухацца каму-н, чаму-н. 3. Стрымаць. Спыніць, запыніць на хаду, затрымаць, запаволіць рух, ход, дзеянні. 4. Разбіць. Нанесці паражэнне, перамагчы /ТСБМ/. Пагоню можна спыніць, стрымаць толькі тады, калі разбіць, знішчыць яе. У кантэксце гэтыя словы знітаваныя ў адно цэлае. Пастаўленыя побач, яны ўзмацняюць і дапаўняюць сэнс адно аднаго, што стварае дынамічную зрокавую і слыхавую карціну імклівасці бегу, непераможнасці Літоўскай Пагоні. У адным сінанімічным радзе з гэтымі лексемамі выступаюць і выразы, якія характарызуюць і дапаўняюць імклівасць бегу, — ***“у белай пене”*** і ***“цяжка хрыпяць”***.

Семантычна збліжаюцца ў кантэксце і даеясловы ***забыць, адрачыся, прадаць, аддаць у палон.*** Як і ў папярэдніх выпадках, яны ідуць адзін за адным, і кожны з іх узмацняе і дапаўняе змест папярэдняга, а ўсе разам дапамагаюць аўтару перадаць найвялікшы душэўны боль героя, адносіны да тых, хто здрадзіў нацыянальным інтарэсам свайго народа. Паўтараючы ў адным радку лексему ***бійце***:

Бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі,
Не даваіцe чужынцамі быць...,

паэт заклікае да барацьбы з тымі беларусамі, што гатовыя стаць чужынцамі, адрачыся ад сваёй Бацькаўшчыны.

Мо яны, Беларусь, панясліся
За тваімі дзяцьмі уздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон.

Аўтар спадзяецца, што яны пачуюць голас слаўных продкаў, які дойдзе да іх сэрцаў. Таму і такі настойлівы паўтор “бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі”, мо іх сэрцы забаляць па радзімай старонцы.

Прыём паўтору як спосаб экспрэсіўнага выдзялення, фіксацыі ўвагі паэт выкарыстаў і ў радках:

Усё лятуць і лятуць тыя коні...

Гэты паўтор перадае інтэнсіўнасць, нацружанасць дзеяння, стварае зрокавую карціну шматлікасці войска, што спяшаецца на абарону Радзімы, якое “не разбіць, не спыніць, не стрымаць”. Дзеяслоў ***лятуць*** цяперашняга часу, хаця гутарка ідзе пра старадаўнюю пагоню. Выкарыстанне формы гістарычнага цяперашняга часу дае паэту магчымасць перадаць вобраз зрокава жывым, аб’яднаць мінулае і сучаснае, зрабіць даўняе рэальным.

У тэксце верша двойчы ў другой і апошняй, заключнай строфах паўтараюцца без змен два апошнія радкі:

Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

Паўтор цэлых радкоў страфы ўзмацняе эмацыянальнае ўздзеянне верша, з’яўляецца заключным акордам твора на.высокай ноце.

Думка пра сувязь пакаленняў праходзіць праз увесь верш, але надзвычай сканцэнтравана ў радках:

У бязмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады.

**Бязмерная** /даль/, якую немагчша або цяжка вымераць’ /ТСБМ/, стылістычна нейтральныя, антанімічныя прыназоўнікі ***за*** і ***прад*** і займеннік ***вам***, якія ў тэксце набылі асаблівую сэнсавую значнасць, сталі не толькі сродкам стварэння вобразнасці, а і дапамаглі паэту яскрава перадаць чытачу сваю думку.

Эфектыўны лексічны сродак стварэння экспрэсіі - тропы. У вершы найбольш мастацкіх азначэнняў — эпітэтаў, якія з'яўляюцца адным са сродкаў стварэння эмацыянальнага напалу твора, перадаюць настрой лірычнага героя, яго боль і жах за Радзіму, любоў да яе.

Эпітэты ў вершы агульнаўжывальныя і народнапаэтычныя: ***белая пена, радзімая старонка, Вострая Брама святая. Старадаўняя Літоўская Пагоня, трывожнае сэрца, Маці родная, срэбная збруя, грозныя коні, бязмерная даль.***



***Вострая брама ў Вільні***

Паспрабуем зрабіць лінгвістычны эксперымент і прачытаць радкі верша без эпітэтаў. Зразумела, што такі пропуск умоўны, бо ў вершы кожнае слова на сваім месцы, і яго нельга апусціць, але такі эксперымент высветліць важнасць кожнага мастацкага азначэння, яго сэнсавую і эмацыянальную напоўненасць, эстэтычную вартасць. Прыгадаем пачатак твора;

Толькі ў сэрцы *трывожным* пачую<br>За краіну *радзімую* жах, —<br>Успомню Вострую Браму *святую*<br>І ваякаў на *грозных* канях.

У *белай* пене праносяцца коні, —<br>Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць... ,<br>*Старадаўняй* Літоўскай Пагоні<br>Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

Апусцім падкрэсленыя азначэнні. Што ж? Ужо сэрца не трывожнае, проста Вострая Брама, і краіна, не святая, не родная, коні — гэта ўжо не грозная сіла, праносяцца яны з лёгкасцю, а пра якую Літоўскую Пагоню ідзе гутарка, можна толькі здагадвацца. Як бачым, вобразныя азначэнні ў тэксце — гэта аўтарскія асацыяцыі, яго мастацкія ацэнкі, яго бачанне і разуменне рэчаіснасці. Менавіта эпітэты ствараюць пэўную настраёвасць твора, дапамагаюць узнёсласці гучання верша-гімна.

На граматычным узроўні звяртаецца ўвага на суадносіны часцін мовы ў тэксце, словаўтварэнне, стылістычнае ўжыванне пэўных граматычных форм, парушэнне парадку слоў, рытарычныя пытанні, шматкроп'е, тыпы сказаў і г.д.

Найбольш у вершы дзеясловаў /33, 6 з іх паўтараюцца двойчы/, у асноўным гэта дзеясловы руху: ***праносяцца, рвуцца, мкнуцца, ляціце, спяшыце, йдуць, паняслісся, лятуць***, якія надаюць усяму твору дынамізм, імклівасць, узрушанасць. Большасць дзеясловаў абвеснага ладу цяперашняга часу, якія паказваюць на дзеянне як рэальнае, канкрэтнае. І толькі тры дзеясловы ў форме прошлага часу, яны абазначаюць дзеянне як факт мінулага, якое ўжо адбылося.

Дзеясловы ***бійце, хай пачуюць, прабач, прымі, дазволь*** — загаднага ладу. Два першыя — гэта заклік, патрабаванне дайсці да сэрцаў тых, што могуць стаць чужынцамі, не даць ім зрабіць гэтага. Дзеясловы ***прабач, прымі*** і ***дазволь*** выражаюць просьбу лірычнага героя, узрушанасць яго душы. За што ён просіць прабачэння ў Радзімы? Чаму гаворыць: "Ты прымі свайго сына". Тут асоба лірычнага героя зліваецца з асобай аўтара. Як вядома, М. Багдановіч жыў па-за межамі Беларусі і мала бываў на Радзіме. Аўтар просіць прабачэння ў Бацькаўшчыны, просіць прыняць яго як свайго сына ў цяжкі для радзімай старонкі час.

У вершы 23 назоўнікі і, за выключэннем двух /*боль* і *жах*/, усе яны канкрэтныя. Сярод канкрэтных назоўнікаў вылучаецца група слоў, што належаць да ваеннай лексікі: ваякі, палон, мячы. Назоўнік ***старонка*** належыць да паэтычнай лексікі. Абстрактныя назоўнікі выражаюць псіхічны стан героя.

Ва ўжыванні прыметнікаў ёсць свае асаблівасці: яны амаль усе выконваюць ролю эпітэтаў і дапамагаюць стварыць мастацкія вобразы, карціны, перадаць перажыванні героя. Аналіз эпітэтаў зроблены на лексічным узроўні.

У тэксце 11 займеннікаў: ***вы, вамі, вашы, кім, тваімі, іх, гэтакі, Ты, Цябе, яму, свайго***. Асабовы займеннік ***Ты*** паўтараецца двойчы:

Маці родная, Маці-Краіна!<br>Не усцішыцца гэтакі боль...<br>Ты прабач, Ты прымі свайго сына,<br>За Цябе яму ўмерці дазволь.

Асабовыя займеннікі паказваюць на канкрэтную асобу, да якой непасрэдна звяртаецца той, хто гаворыць. Лірычны герой успрымае Радзіму як жывую істоту, асацыяцыя з роднай маці ўзмацняе пачуццё павагі і пашаны да яе, што графічна паэт перадае праз напісанне займеннікаў з вялікай літары. Звычайна займеннікі належаць да слоў стылістычна нейтральных. У вершы займеннікі Ты, Цябе эмацыянальна-экспрэсіўныя, яны нясуць своеасаблівую сэнсавую нагрузку.

Не з'яўляюцца стылістычна-нейтральнымі ў тэксце і прыналежныя займеннікі ***вашы, тваімі, свайго***.

Вы за кім у пагоню спяшыце?<br>Дзе шляхі вашы йдуць і куды?<br>Мо яны, Беларусь, паняслісся<br>За Тваімі дзяцьмі ўздагон.

Ты прабач, Ты прымі свайго сына...<br>За Цябе яму ўмерці дазволь...

Яны напоўнены пэўным зместам. Так, займеннік ***тваімі*** */дзецьмі/* падкрэслівае, што адракліся, забылі, прадалі Беларусь не чужыя, а тыя, хто быў дзецьмі сваёй Радзімы. Здрада свайго страшнейшая за здраду чужога. А можа іх яшчэ можна вярнуць? Можа голас продкаў пастукае ў іх сэрцы?

"Прымі свайго сына", — усклікае лірычны герой. Ён тут у цяжкі для Радзімы час, ён свой сын, гатовы "ўмерці" за яе.

Так пад пяром мастака кожнае слова становіцца значным, напаўняецца глыбокім сэнсам, працуе на яго задуму.

Аналіз верша на сінтаксічным узроўні паказвае, што ўсе строфы утвараюць асобнае сінтаксічнае цэлае, якое складаецца з аднаго ці найчасцей двух самастойных сказаў.

Толькі ў сэрцы трывожным пачую<br>За краіну радзімую жах, —<br>Успомню Вострую Браму святую<br>І ваякаў на грозных канях.

У белай пене праносяцца коні, —<br>Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...<br>Старадаўняй Літоўскай Пагоні<br>Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

У трэцяй страфе верша складанае сінтаксічнае цэлае — тры сказы.

У бязмерную даль вы ляціце,<br>А за вамі, прад вам! — гады.<br>Вы за кім у пагоню спяшыце?<br>Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Такая структурная арганізацыя дае магчымасць аўтару ў кожнай страфе не толькі даць адпаведную інфармацыю, а і зрабіць яе найбольш значнай, закончанай, выдзеліць ёй неабходнае месца ў сістэме адзінага сэнсавага цэлага.

У вершы найбольш складаных сказаў. У другой, пятай, шостай і сёмай строфах сустракаюцца сказы з незакончанай думкай.

Маці родная, Маці-Краіна!<br>Не усцішыцца гэтакі боль...<br>Ты прабач, Ты прымі свайго сына,<br>За Цябе яму ўмерці дазволь...

Гэта стылістычны прыём, так званы абрыў. Графічна ён перадаецца праз шматкроп'е. Усхваляванасць, узрушанасць героя, яго споведзь-прызнанне Радзіме, даказаны абрывам.

Абрывам перадаецца і незакончанасць дзеяння - яго працяг:

У белай пене праносяцца коні, —<br>Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...

Усё лятуць і лятуць тыя коні,<br>Срэбнай збруяй далёка грымяць...

Яшчэ не ўсё сказаў аўтар пра імклівы бег-палёт коней, якімі кіруюць слаўныя ваяры мінуўшчыны. Не толькі храп і белая пена, а яшчэ і свіст паветра, цокат капытоў, гул, іржанне і інш. — усё, што можна ўбачыць і пачуць, усё, што застаецца за тэкстам, перадаецца шматкроп'ем.

Павялічаную семантыка-сінтаксічную ролю адыгрываюць у тэксце інверсійныя члены сказа. Адваротны парадак іх у сказе мяняе вобразна-лагічны; змест фразы. У вершы інверсія назіраецца толькі ў першай сграфе — зачыне твора.

Толькі ў сэрды трывожным пачую<br>За краіну радзімую жах, —<br>Успомню Вострую Браму святую<br>І ваякаў на грозных канях.

Пры прамым парадку слоў азначэнні прыметнікі стаяць перад назоўнікамі, у тэксце яны — пасля назоўнікаў /у інверсіі/, на іх падае лагічны націск, яны нясуць ,большую стылёвую нагрузку.

Адна з асаблівасцяў вершаванай мовы — яе мілагучнасць, музычнасць, што ствараецца гукавой арганізацыяй верша. Рытмічная прырода верша актывізуе гукі. Паўтараючыся, яны садзейнічаюць узмацненню сувязі паміж словамі, падкрэсліваюць вобразы, карціны, ствараюць асананс /паўтарэнне сходных ці аднолькавых галосных/ і алітэрацыі /канцэнтрацыя аднолькавых зычных/. Таму, аналізуючы верш, трэба спыніцца і на гукавым узроўні.

Прыслухаемся да першых радкоў верша:

Толькі ў сэрцы тдывожным пачую<br>За краіну радзімую жах, —<br>Ўспомню Вострую Браму святую<br>І ваякаў на грозных канях.

У белай пене праносяцца коні, —<br>Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...<br>Старадаўняй Літоўскай Пагоні<br>Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

Гук **'р'**, які паутараецца ў найбольш сэнсава значных словах, надае важкасць, суровасць, моц, упэўненасць у нязломнасці сілы вялікага войска, якое спяшаецца з мінулага змагацца супраць сённяшняй здрады. Гук **'р'** выкарыстоўваецца ў вершы больш за 30 разоў, што адпавядае інтанацыйнай інструментоўцы верша, стварае асаблівую выразнасць яго.

І зусім інакш гучаць радкі верша, дзе адчуваецца асананс гукаў **'а'**, **'о'**:

Маді родная, Маці-Краіна,<br>Не усцішыцца гэтакі боль... ;<br>Ты прабач. Ты прымі свайго сына.<br>За Цябе яму ўмерці дазволь!

Тут гукавая інструментоўка іншая, яна стварае лірычны настрой.

Такім чынам, нейтральныя самі па сабе гукі ў мастацкім тэксце набываюць эстэтычную вартасць, становяцца сродкамі паэтычнага уздзеяння.

"Пагоня" — твор патрыятычны па змесце і пявучы па інтанацыі — стала нацыянальным гімнам Беларусі.

# НІ К СЯЛУ НІ К ГОРАДУ

Гэты выраз часам у некаторых лінгвістычных і літаратуразнаўчых працах кваліфікуецца як «непатрэбнае запазычанне», «не вельмі зграбная калька» і інш. Прычым ніякіх доказаў на карысць такога сцвярджэння не дадаецца. А між тым усе кампаненты гэтага фразеалагізма суадносяцца з адпаведнымі словамі свабоднага ўжывання, добра вядомымі кожнаму беларусу. Відаць, віноўнікам тут выступае прыназоўнік «к». Замест яго ў апошнія дзесяцігоддзі некаторыя аўтары выкарыстоўваюць «да». Але ж «к» — спрадвечна беларускае слова, яно і сёння жыве ва ўсіх славянскіх мовах. І ў беларускай таксама. У акадэмічным ТСБМ, складзеным на аснове шматмільённай фундаментальнай картатэкі з фактычным маўленчым матэрыялам, паказаны шматлікія прастаравыя, часавыя, аб'ектныя і мэтавыя адносіны, якія выражае спалучэнне з прыназоўнікам «к».

Кандрат Крапіва пісаў: «Непаразуменнем з'яўляецца тое, што прыназоўнік *к* ва ўсіх выпадках імкнуцца замяніць прыназоўнікам *да* на той падставе, што канструкцыі з гэтымі прыназоўнікамі нібыта сінанімічныя, але прыназоўнік *к* не ўласцівы беларускай мове. На самай жа справе гэты прыназоўнік таксама ўласцівы беларускай мове, як і *да*. Апрача таго, у пэўных выпадках кожны з гэтых прыназоўнікаў надае словазлучэнню асаблівы сэнс. Напрыклад, *спячы піраг да свята* не тое самае, што *спячы піраг к святу. Да свята* можна спячы ды з'есці, а *к святу* — гэта значыць, што ў свята ён павінен быць на стале. Такое ж рознае значэнне маюць выразы: *скончыць працу к тэрміну* і *скончыць працу да тэрміну*; *галлё звісала к зямлі* і *галлё звісала да зямлі; прыйсці к абеду* і *прыйсці да абеду*.

Пра тое, што фразеалагізм *ні к сялу ні к гораду* існаваў у жывой народнай мове яшчэ ў пазамінулым стагоддзі, сведчыць «Зборнік беларускіх прыказак» І.І. Насовіча (1874, с. 112). Выраз растлумачаны так: «Гавораць, калі што сказана недарэчы». Фіксуецца ён і ў сучасных акадэмічных даведніках — ТСБМ і БРС.

А найлепшае сведчанне яго жыцця ў мове — маўленчая практыка аўтарытэтных аўтараў. Гэта можна пацвердзіць дзесяткамі прыкладаў. Абмяжуемся наступнымі: 1) Дужа мне прыкра, што п. старшына не лічыўся з маёй просьбай і па-свойму папраўляў лірніка, дзе ён рыфмуецца з другім словам. Значыцца, выйшла ні к сялу ні к гораду (Я.Купала); 2) Замест «благодарю» ляпне Міхалка ні к сялу ні к гораду — «дзякую» (Я.Колас); 3) Гаворка ў абодвух іх выходзіла складна, але ні к сялу ні к гораду (К.Чорны); 4) Цімка ні к сялу ні к гораду адпаліў раптам: – І ляснуў бы вось я па ўсіх тваіх прычындалах, толькі б шкло пасыпалася... (М. Лынькоў).

Гэты выраз двухзначны. У прыведзеных прыкладах ён рэалізуе прыслоўна-акалічнаснае значэнне «зусім недарэчы, неўпапад». Апрача таго, ён ужываецца як прыметнікава-азначальны ў ролі выказніка пры дзейніку са значэннем неадушаўлёнага прадмета, абазначаючы «зусім недарэчны»: 1) Бывае, ляпнеш што-небудзь, а яно ні к сялу ні к гораду (П.Рунец); 2) Сёй-той лічыць, што вучоба ва універсітэце мала што дае. Што там быццам бы шмат непатрэбшчыны, якая ні к сялу ні к гораду («Вожык»).

Як бачым, існаванне гэтага фразеалагізма ў нашай мове — неаспрэчнае.

***Іван ЛЕПЕШАЎ,***<br>***доктар філалагічных навук.***

# Беларуская мова ў публічным ужытку ў 2007 годзе

***Што азначаў і што новага прынёс 2007 г. для вырашэння найважнейшай беларускай праблемы – стану нацыянальнай мовы? Што змянілася ў яе публічным ужытку?***

Што тычыцца **ўладных структур** – амаль нічога. Нават з высокіх міжнародных трыбун – Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў, сесіяў АБСЕ, Рады Еўропы – афіцыйныя беларускія прадстаўнікі – намесніца кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Наталля Пяткевіч, міністар замежных спраў Сяргей Мартынаў, старшыня ФПБ Леанід Козік, экс-спікер парламенту Уладзімір Канаплёў, – выступалі на расейскай мове.

Па-беларуску ў парламенце выступае толькі адзін дэпутат з 210 – старшыня камісіі па адукацыі, культуры, навуцы Уладзімір Здановіч.

У беларускі парламент сёлета паступіў толькі адзін законапраект на беларускай мове – "Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", які быў прыняты ў першым чытанні. Меркаванне лінгвіста **Змітра Саўкі**:

- На жаль, так сталася, што ўлады вырашылі забараніць тарашкевіцу і "прыкрыць" гэты антыдэмакратычны крок законам пра ўвядзенне новых правілаў. Я мяркую, што гэта вельмі шкодны крок для мовы. Хай бы яны шчыра зрабілі гэты крок – прызналі тарашкевіцу антыдзяржаўнай з'явао, на гэтым усё скончылася, а не нявечылі хаця б наркамаўскага правапісу.

Таварыства беларускай мовы дамаглося, што ўсе абвесткі ў грамадскім транспарце гучаць цяпер па-беларуску. Нават віншаванні пасажыраў з Калядамі і Новым годам. Транспартнікі стараюцца, праўда, здараюцца і памылкі. Днямі прачытала шыльдачку ў 37-м тралейбусе: "Не адваблівайце ўвагу вадзіцеля падчас руху тралейбуса".

Актыўна пачала змагацца за моўныя правы моладзь. Сёлета тэст па беларускай мове здавалі 87 тысяч абітурыентаў – амаль 40% ад усіх (Гэта на чвэрць больш, чым летась). Распавядае старшыня таварыства беларускай мовы **Алег Трусаў**:

- У Менску ўпершыню колькасць заяваў у класы беларускамоўныя была болей, чым месцаў – не ўсім хапіла. Упершыню зрабілі беларускамоўныя садкі ў Горадні і Магілёве. Стварыўся першы беларускамоўны клас у Бярозе.

Мы адстаялі вывучэнне беларускай мовы ва ўсіх ВНУ, бо зноў жа хацелі выкінуць, а мы не далі. Тым больш што зараз улады зноў спрабуюць яе выкінуць, і мы правялі Раду, зараз будзем зноў збіраць подпісы грамадзян, каб усё ж такі мову ў ВНУ пакінуць як прадмет.

Кажа старшыня Таварыства беларускай школы **Алесь Лозка**:

- Для адукацыі год – своеасаблівы. Ёсць пэўныя страты, але ёсць і надзеі. Па колькасці класаў і школ становішча ўсё менш і менш. Менш у вёсках, але ў Менску – адраджаецца жыццё нацыянальнае.

Сёлета шэраг грамадскіх арганізацыяў заснаваў прэмію імя Вацлава Ластоўскага для беларускамоўных выкладчыкаў ВНУ, прычым узнагароджаныя былі не выкладчыкі гуманітарных дысцыплін, а матэматык, медык, географ. Пры канцы году будуць абвешчаныя пераможцы конкурсу "Беларускі настаўнік-2007".

Але ёсць і страты ў гэтым кірунку. Змяніліся школьныя праграмы па беларускай літаратуры: значна скарочанае вывучэнне творчасці Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, іншых класікаў. Гаворыць старшыня ТБМ **Алег Трусаў**:

- Страцілі мы беларускамоўныя дзяржаўныя календары – пакуль што ў крамах няма ніводнага, ні перакіднога, ні насценнага, ні адрыўнога. Пакуль прыватныя асобы выдаюць – "Бацькаўшчына", да прыкладу. А дзяржава перастала выдаваць беларускамоўныя календары – упершыню гадоў за 20.

Зноў па-расейску хлопчык спяваў, што перамог на Еўрабачаньні – мову нашу пракінулі. З другога боку, з падполля сталі выпускаць беларускамоўныя гурты – усе гэтыя "Крамбамбулі", ім кісларод далі крыху болей.

У Беларусі з'яўляюцца асобы, якія здольныя зрушыць стэрэатыпы. Калі гамельчанін **Сяргей Сямёнаў** вярнуўся з Украіны, ён адмовіўся запаўняць расейскамоўны бланк дэкларацыі і папрасіў, каб яму далі фармуляр на беларускай мове, за што ўрэшце быў прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасці. Мытнікі спачатку класіфікавалі гэта як "непадпарадкаванне патрабаванням службовай асобы". У выніку суд спагнаў з Сямёнава 30 базавых велічынь штрафу – амаль 450 даляраў. Сяргей Сямёнаў дамогся таго, што выпусцілі дэкларацыі на беларускай мове. Старшыня Канстытуцыйнага Суда **Рыгор Васілевіч** публічна заявіў: "У беларускай Канстытуцыі замацавана недапушчальнасць дыскрымінацыі грамадзянаў паводле рэлігійнага, палавога, расавага і моўнага прынцыпаў. З усім, апроч мовы, у нас добра", і нагадаў: адказнасць за непавагу да дзяржаўнай мовы ніхто не адмяняў.

Удалося дамагчыся назваць шэраг вуліц імёнамі выбітных беларусаў – Напалеона Орды, Язэпа Драздовіча, Івана Шамякіна. Зараз ідзе сапраўднае змаганне з Міністэрствам юстыцыі, у якое ўвязаліся і дэпутаты Менгарсавету – за прысваенне сталічным вуліцам імёнаў Льва Сапегі, Эдварда Вайніловіча і Янкі Брыля. Ну а беларускамоўныя паштоўкі, канверты, маркі – іх сапраўды зявілася вельмі шмат.

Калі ў мінулыя гады з'яўлялася шмат беларускамоўнай рэкламы, сёлета – гэта адзінкі, дый то, па-беларуску рэкламуюцца замежныя фірмы – "Самсунг", "Рэно", "Адзідас", а не беларускія вытворцы, сцярджае арт-дырэктар аднаго з вядучых рэкламных агенцыяў **Сяргей Скрыпнічэнка**:

- Гэта зрухі, якія называюцца "мёртваму прапарка". Тое, што робіцца нейкая рэклама па-беларуску – яна не вырашае ні праблемы рэкламы – ніяк не ўплывае на рэкламу, не вырашае праблемы з беларускай мовай увогуле. Я як патрыятычна настроены чалавек, вітаю падобныя пачынанні, але пры гэтым я рэаліст і бачу, што нічога не змяняецца. Адкрыйце рэкламную газету і падлічыце: вы нават 1% не знойдзеце беларускамоўнай рэкламы. Проста білборды робяць фірмы, якія маюць добрыя бюджэты, і мы гэтыя білборды вялікія проста ў горадзе заўважаем. І нам здаецца, што нямала гэтай рэкламы. Але ў агульнай колькасьці рэкламы гэта менш за 1%.

На думку старшыні ТБМ **Алега Трусава**, сёлета...

- Самае галоўнае, што ў нас адбылося добрага – гэта з'явіўся беларускамоўны "Белсат" – тое, чаго ТБМ дамагалася шмат гадоў. Канал пачаў дзейнічаць.

Народны паэт Беларусі **Ніл Гілевіч**, назіраючы за сёлетнімі зрухамі, выказаўся надзвычай аптымістычна:

- Нягледзячы на ўсе абставіны, самыя маладыя людзі па падказцы самога Госпада Бога ці што, нутром адчуваюць, што трэба, мы абавязаныя, калі не мы, дык хто? Усе надзеі – на моладзь. Вы любіце родную мову? Не будзем падаць духам! Не будзем упадаць у песімізм! Так не бывае, каб 10-мільённы народ неяк раптам, патроху, з нечай сатанінскай сілы пазбавіўся свайго нацыянальнага аблічча, перш за ўсё мовы сваёй. Усё залежыць ад нас.

*Іна Студзінская.*

# Успаміны Эдварда Вайніловіча

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

На трыбуну падняўся дэпутат Дыяманд і, нягледзячы на адсутнасць сімпатыі да яго партыі, я павінен прызнаць, што ён у пух і прах разнёс прамову рэферэнта, пастаянна з іроніяй ставячыся да яго довадаў. "Верагодна гэта праўда, што, як гаворыць пан Радзішэўскі, Польшча багатая, - крычаў Дыяманд, - калі можа жыць без бюджэту, тады як найбагацейшыя дзяржавы без бюджэту абыйсціся не могуць, хіба што шахтамі будзе гасіць пазыку, бо не з дзяржаўных жа прыбыткаў, якія і складаюць-то ўсяго 750 000 000 марак, а адсоткі ад 5 мільярдаў, якіх застаецца меней за 7% пасля вялікаў выдаткаў на фінансаванне, розніцы курсаў, розных куртажоў і амартызацыі, г. зн. 350 000 000 марак, іншымі словамі, палова прыбыткаў. Я дзіўлюся, - гаварыў далей Дыяманд, - што ў Сейме ніхто нават не спытаў, для якіх мэт патрэбная гэтая пазыка, як яна будзе фінансавацца, як будуць налічацца адсоткі, якая будзе амартызацыя, з якіх падатковых крыніц будуць выплочвацца адсоткі? Я чую, што старшыня фінансавай камісіі спасылаецца на запал, ахвярнасць, патрыятызм Сейму, усё гэта выдатна і ўзнёсла, але ў якой гандлёвай або фінансавай рубрыцы ўліковай кнігі дзяржаўных даўгоў загадае пан Радзішэўскі гэтыя пазіцыі зарэгістраваць?" і г. д. Радзішэўскі з яўным нецярпеннем выслухоўваў гэтыя рэплікі Дыяманда. Калі ён узышоў на трыбуну, мне было цікава, як будзе іх парыраваць, але, калі пан Радзішэўскі не знайшоў іншых аргументаў, акрамя як: "пан Дыяманд грэбуе запалам, ахвярнасцю і патрыятызмам, а ці быў без гэтай дабрадзейнасці Самас'ера", я надзеў капялюш і пакінуў з цяжкім сэрцам залу паседжанняў. Няўжо гэтыя дэпутаты павінны вырашаць лёс дзяржавы? Памятаю, як у фінансавай камісіі Дзяржаўнай Рады, калі Расія са 150-мільёным насельніцтвам, якая распасціралася ад Каліша да Уладзівастока, павінна была ўзяць мільярд пазыкі, мы цэлы месяц ламалі галовы з такім фінансістам, як граф Вітэ, над тым, як гэтую справу вырашыць з найбольшай карысцю, а тут гэта вырашаецца простай атакай лёгкай кавалерыі. І што з гэтага можа быць?

**30 сакавіка 1919 г.** Прыём у Цэнтральным сельскагаспадарчым таварыстве кааліцыйнай місіі. Мой сусед, цімкавіцкі распарадчык Чарвінскі, спрабуе сёння выехаць у Цімкавічы. Паглядзім, ці ўдасца яму даехаць, можа прывязе для мяне вестачку ад маёй сястры, жонкі маршалка Харвата, якая, не жадаючы з'язджаць далёка з родных месцаў, інкогніта пасялілася ў аддаленым двары ў Нясвіжы, у былога агародніка ў замку Пастарэмчыка.

**7 красавіка 1919 г.** Агульны штотыднёвы збор нашага Саюза пад маім старшынствам. Маркотныя навіны з Менска аб пераводзе сястры Каствавіцкай з Менска ў выпраўленчую турму ў Смаленску.

**9 і 10 красавіка 1919 г.** Збор і выбары ў доме графа С. Лубенскага "Партыі канстытуцыйнай працы". Раніцай гэтага дня шматлікі збор у мяне, які даў ад Літвы і Беларусі 30 чальцоў гэтай партыі. Дэлегатамі ад Крэсаў вылучылі А. Мяйштовіча і мяне. У зборы ў Лубенскага прымаюць удзел прадстаўнікі Галіцыі і Украіны. Я пазнаёміўся з Галухоўскім, які рабіў уражанне венскага бюракрата. Дай Божа, каб ад гэтых паседжанняў была якая-небудзь карысць.

**11 красавіка 1919 г.** Я быў у ратушы на адкрыцці з'езду прадстаўнікоў "Мацежы школьнай" ад трох захопленых тэрыторый, а ўвечар на вялікім раўце ў М. Карскага, дзе сустрэў мансеньёра Раці, кучу бюракратаў і міністра сельскай гаспадаркі Яніцкага, які заклікаў абшарнікаў, каб пакуль не прадавалі зямлю, паколькі пакупнікамі будуць багатыя сяляне, а пралетарыят застанецца незадаволеным.

**13 красавіка 1919 г.** Звычайнае штотыднёвае паседжанне нашага Саюза. Мы даведваемся, што новы міністр фінансаў Карпінскі адмаўляе ў субсідыях уцякачам. Нікога гэта не здзівіла, таму што гэта нармальнае стаўленне польскага ўраду і грамадства да красоўцаў.

**18 красавіка 1919 г.** Вялікая Пятніца, урачыстае набажэнства ў кафедральным саборы, якое адслужыў палявы біскуп Гал. Ліда занята польскімі войскамі.

**19 красавіка 1919 г.** Увечар, у 8 гадзін, я быў на ўрачыстай велікоднай ютрані ў кафедральным саборы. На пасту ў Труны Панскай у поўным узбраенні польскія салдаты ў баявых касках.

**20 красавіка 1919 г.** Вялікдзень. Радасная вестка аб узяцці Вільні польскімі войскамі. Дай Божа, каб утрымалі. Нажаль, кіраўніком Літвы прызначаны Ежы Асмалоўскі, грамадзянін з Піншчыны, некалі дырэктар "няшчаснай" фабрыкі коркаў, якая належала ў Пінску мне, Кяневічу і Э. Яленскаму; чалавек паважны, але ўльтралевы, да таго ж які не здолеў выпрацаваць у сабе адміністрацыйных здольнасцяў, але меў даўнія адносіны з Пілсудскім. Адначасова з Вільняй заняты Баранавічы і Навагрудак. З Менска нібы ўцяклі бальшавікі і ўчынілі там нешта накшталт пагрому. Нічога не вядома, што здарылася з сястрой Каствавіцкай. Мы былі на велікодным прыёме, гасцінна наладжаным сям'ёй Пятра Ваньковіча.

**28 красавіка 1919 г.** Звычайнае пад маім старшынствам паседжанне нашага Саюза. Заслухалі справаздачу прыбылых з Вільні і Петраграда аб цяжкіх умовах жыцця пад бальшавікамі. Заўтра як трыумфатар павінен вярнуцца з віленскага паходу Пілсудскі, які пакінуў там адміністрацыйны хаос і самавызначэнне шляхам галасавання, супраць чаго нават мясцовае насельніцтва нібы пярэчыла. Быццам бы забаранілі ў Беластоку вербаваць дабраахвотнікаў у літоўска-беларускую дывізію.

Учора канчаткова сфармаваўся "Варшаўскі саюз абшарнікаў з Літвы і Белай Русі". А. Мяйштовіч і я, нягледзячы на ўзмоцнены ціск, адмовіліся ад старшынства. Старшынём быў вылучаны годны Дамінік Даўгяла, віцэстаршынём - Л. Уняхоўскі. Гарадзенцы, па сваім звычаі, ад удзелу ў Саюзе адмовіліся, віленцы яшчэ сумняваюцца, імкнучыся да прамога саюза з Каралеўствам. Пацвярджаюцца весткі аб тым, што бальшавікі вывезлі большасць закладнікаў з Вільні і Менска ў Смаленск - у тым ліку і сястру Каствавіцкую.

**30 красавіка 1919 г.** Урачыстае падзячнае богаслужэнне ў кафедральным саборы ў гонар узяцця Вільні, адпраўленае біскупам Ялавецкім.

**3 траўня 1919 г.** Маніфестацыі, вулічныя шэсці, у якіх удзельнічае ўся Варшава, нягледзячы на тое, што паліцыі мала, парадак не парушаецца.

**4 траўня 1919 г.** Звычайнае штотыднёвае паседжанне нашага Саюза пад маім старшынствам. Цікавая справаздача абшарніка з наваградскага павету Рамана Ёдкі аб тым, як ён праведў 4 гады ў хаце ў вёсцы падчас розных акупацый. Вырашылі вылучыць дэлегацыю, якая пастараецца атрымаць згоду Кіраўніка дзяржавы на ўзаемны абмен палонных бальшавікоў на закладнікаў, узятых з людзей нашага кола. Трывожныя весткі з Вільні аб паўторнай спробе бальшавікоў заняць горад.

**5 траўня 1919 г.** Сустрэў мяне на вуліцы і спыніў Курлоў, былы губернатар Менска, а потым таварыш міністра ўнутраных спраў і начальнік "аховы" у Кіеве падчас забойства Сталыпіна. Не толькі ён, але наогул многія былыя царскія саноўнікі збегліся ад бальшавікоў у Варшаву.

**11 траўня 1919 г.** У зале Тэхнікаў на Чацкага лекцыя Немаеўскага "Аб Літве і Польшчы" на карысць "Мацежы школьнай". Вяртанне Падзярэўскага з Парыжа і ўяўны замах на яго недалёка ад Венскага вакзала.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# У нас забралі "Родны край"

Тое што зараз робіцца вакол беларускамоўных календароў інакш як добра спланаванай антыдзяржаўнай і антынацыянальнай акцыяй назваць нельга.

Яшчэ ў пачатку 2007 года ТБМ звярталася ва Урад краіны з прапановамі па дзяржаўным супрацьдзеянні бескантрольнай і масавай экспансіі расійскай друкаванай прадукцыі ў Беларусь. Урад праігнараваў гэты зварот. Добра, на тое ён і Урад, сам усё ведае.

ТБМ задоўга да складання гэтай сітуацыі звярнулася ў Міністэрства інфармацыі з патрабаваннем абавязкова выпусціць каляндар "Родны край".

Яшчэ ў лістападзе ТБМ атрымала адказ, з якога было зразумела, што "Родны край" усё такі будзе ўключаны ў план выданняў на **наступны год**, але, мабыць, гэтыя адказы яшчэ трэба ўмець чытаць.

Як разумець гэты "наступны год": ці то будзе каляндар на наступны год, ці на наступны год яны будуць яго рабіць. Аднак прадаўцы ў кнігарнях усім пакупнікам адказваюць, што каляндара не будзе.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуўся з гэтай нагоды ў Адміністрацыю Прэзідэнта. А пакуль што на ўсю Беларусь выйшаў толькі адзін насценны беларускамоўны каляндар, выпушчаны ЗБС "Бацькаўшчына". Няма ніводнага перакіднога календара. Кішэнныя беларускія каляндарыкі выпускае ТБМ, а не дзяржава.

Нават звыклага ўсім Каляндара святаў і абрадаў беларусаў, які выпускаў Васіль Ліцьвінка, сёлета, відаць, не будзе, бо памёр сам Ліцьвінка, а ў Беларусі апошнім часам усё ў адну столку. Не стане аднаго чалавека - не стане цэлага кавалка Беларускай справы.

Але што рабіць у сённяшняй сітуацыі? Адказ такі. Трэба ісці ў кнігарні і пісаць заяўкі на каляндар "Родны край". Калі іх не будуць браць, пісаць гэтыя заяўкі ў кнігі скаргаў. Прынамсі гэтыя кнігі яшчэ чытаюць.

А Камітэту дзяржаўнага кантролю пара б задацца пытаннем: каму і за колькі выгадна, каб такая хадавая друкаваная прадукцыя, як календары, цалкам завозілася з Расіі, а не выраблялася з пэўным прыбыткам у Беларусі.

І, нарэшце, можа знойдзецца чыноўнік, які адкажа, што рабіць калекцыянерам, якія збіралі ўсе календары "Родны край" ад першага, і ў калекцыях якіх год 2008 мае перспектыву стаць "дзіркай".

**МІНІСТЭРСТВА ІНФАРМАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**



**МИНИСТЕРСТВО ИНФОРМАЦИИ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ**

Праспект Пераможцаў, 11, 220004, г. Мінск тэл. (017) 203 92 31, факс (017) 203 34 35

Проспект Победителей, 11, 220004, г. Минск тел. (017) 203 92 31, факс (017) 203 34 35

«15» 11. 2007 № 05-05/ЛА338
на № 165 ад 18. 09. 2007
№ 173 ад 12. 11. 2007
№ 147 ад 06. 09. 2007

Старшыні
ГА "Таварыства беларускай мовы
імя Ф. Скарыны"
Трусаву А.А.

Аб беларускамоўных календарах

Паважаны Алег Анатольевіч!

На звароты, паступіўшыя ў Міністэрства інфармацыі 16, 22 кастрычніка і 15 лістапада б.г., паведамляем наступнае.

Вашу прапанову аб выданні беларускамоўнага календара на 2008 год, прысвечанага Дню беларускага пісьменства, падтрымліваем і лічым мэтазгодным падрыхтаваць і выдаць каляндар напярэдадні свята (з пераходам на 2009 год).

Выпуск адрыўнога каляндара "Родны край" выдавецтвам "Беларусь" на 2008 год не планаваўся па аб'ектыўных эканамічных прычынах. На сённяшні дзень рэшткі розных відаў беларускамоўных календароў мінулых гадоў (2005-2007 гг.) складаюць 6 293 экз. на агульную суму 12,342 млн. рублёў.

Аднак, улічваючы пэўную запатрабаванасць насельніцтва ў айчынных беларускамоўных календарах, пры фарміраванні планаў выпуску сацыяльна значных выданняў **на наступны год** выдавецтву "Беларусь" будзе даручана аднавіць выпуск адрыўнога календара "Родны край".

Намеснік Міністра І.М. Лапцёнак

Але што мы бачым у канцы года. У беларускіх крамах зусім не стала беларускіх календароў, не тое што беларускамоўных, але і рускамоўных. Так, у Лідскай кнігарні заяўляюць, што ў іх усе календары з Расіі. А ў гэтых календарах ні то што Каляд ці Дзядоў, у іх і сённяшніх дзяржаўных беларускіх святаў няма.

І куды глядзяць нашыя ідэолагі. Там жа ні 3 ліпеня ні 7 лістапада чырвоным колерам не пазначаны. І гэтая антыдзяржаўная расейская макулатура сёння навязваецца кожнай нашай сям'і.

**БРЭСЦКІ АБЛАСНЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ**

**УПРАЎЛЕННЕ КУЛЬТУРЫ**

вул. Камуністычная, 1, 224005, Брэст, 5 тэл.(8-0162) 23 36 90, факс (8-0162) 23 60 49 e-mail: kulturaisp@brest.by

**БРЕСТСКИЙ ОБЛАСТНОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ**

**УПРАВЛЕНИЕ КУЛЬТУРЫ**

ул. Коммунистическая, 1, 224005, Брест, 5 тел. (8-0162) 23 36 90, факс (8-0162) 23 60 49 e-mail: kulturaisp@brest.by

07.12.2007 № 03/21-9-38
На № 177 от 18.11.2007

Старшыні грамадскага аб'яднання
"Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны"
Трусаву А.А.

Аб разглядзе звароту

Паважаны Алег Анатольевіч!

У дадатак да ранейшай інфармацыі наконт устанаўлення мемарыяльнай дошкі Л.Сапегу паведамляем наступнае.

У сучасны перыяд дошка выканана, але для яе ўстанаўлення патрабуецца вырашыць некалькі працэдурных пытанняў (узгадніць з Міністэрствам культуры Беларусі, зацвердзіць дошку рашэннямі раённага і абласнога выканаўчых камітэтаў, атрымаць заключэнне экспертнага мастацкага савета і г.д.).

Аб канкрэтнай даце ўстанаўлення дошкі Вам будзе паведамлена дадаткова. Просім у Вас прабачэння за маруднасць гэтай важнай справы.

З павагай,

Намеснік начальніка ўпраўлення культуры Т.І. Паўлюковіч.

# *Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў студзені*

Хмараў Сяргей Рыгоравіч
Нікалаеў Аляксандр Яўген.
Кулік Анатоль
Рымша Сяргей
Жарнасек Ірэна Францаўна
Мельнікаў Юры Леанідавіч
Каратчэня Іван Адамавіч
Болбас Данута Вацлаваўна
Ефімовіч Аляксандр Вячас.
Калінін Мікалай Вальдэмар.
Барысевіч Аляксандр Вітол.
Лабанава Наталля Андрэеўна
Пратасеня Юрый Аляксандр.
Зарубава Ганна Уладзімір.
Рудзіч Алена
Каспяровіч Ілля Алегавіч
Котаў Павел Аляксандравіч
Івановіч Кацярына Анатол.
Чарнякова Вольга
Яначкін Ігар Іванавіч
Ашкінадзэ Аляксандра Ал.
Іпатава Вольга Міхайлаўна
Мялешка Віктар Александр.
Дзям'янаў Аляксандр Уладз.
Гедройць Аляксандр Генадз.
Віданава Ірына Аляксееўна
Шыдлоўская Ніна Анатол.
Патаранскі Сяргей Сяргеевіч
Шафарэнка Мікалай Мікал.
Елісееў Андрэй
Гапеева Вальжына Міхайл.
Водзіч Таццяна
Фёдарава Лілея
Курчанава Ларыса Вітал.
Пячкоўскі Франц Уладзімір.
Лісоўскі Дзмітры
Нагорны Юры Аляксандр.
Ігнатчык Алег Уладзіміравіч
Лакішык Аляксей Рыгоравіч
Пракурат Яўген Андрэевіч
Прыхач Віталь Іванавіч
Аверына Іна Віктараўна
Пляхневіч Тамара
Дычок Рэгіна Янаўна
Міхалькевіч Людміла Мікал.
Чылек Міхаіл Паўлавіч
Гасціловіч Уладзімір Всільев.
Хадоркін Мікола Фёдаравіч
Лашук Алег Пятровіч
Бахір Алена
Сівіцкі Уладзімір Уладзімір.
Апейка Марыя Фёдараўна
Дробаў Іван Міхайлавіч
Канус Марыя Іванаўна
Чаркасава Любоў Восіпаўна
Васілевіч Алена Канстанцін.
Магучава Таццяна Васіл.
Сытая Таццяна
Сімбіраў Ігар
Благачынны Фларыян Мікал.
Сушчэня Анатоль
Кожан Кліменці Арсенавіч
Картузава Яўгенія Юр'еўна
Свістунова Алеся Аляксанд.
Зубар Марына Уладзіміраўна
Козел Алена Аляксандраўна
Дубовік Ганна Уладзіміраўна
Ліцьвінчук Анатоль
Ліцьвінчук Аляксей
Навагродскі Мечыслаў Аляк.
Пясецкі Генадзь Леанідавіч
Езавіт Т. В.
Капуста Алена Міхайлаўна
Новік Міхась Фаміч
Лысенак Р.В.
Скрыпко М.А.
Лазарэнкаў Валянцін Дзмітр.
Корнеў Павел Іванавіч
Гарадко Галіна Станіславаўна
Мішкоў Яўген
Чырэка Алесь
Куцэпаленка Яўген
Жылінская Святлана
Мінько Мірына
Красоцкі Ян
Снітко Вера
Вярбоўская Надзея
Гардзіенка Ала Андрэеўна
Малышава Людміла Яўген.
Зімніцкая Ганна Ігараўна
Андрасовіч Наталля Валянц.
Лобец Алесь Паўлавіч
Акуліч Аляксандр
Багданчык Таццяна
Падабед Аляксандр
Клімашонак Віталь Алегавіч
Крывальцэвіч Мікола
Навахрост Кацярына
Норка Алеся
Закрэўская Ніна
Варонька Ніна Адэльфонас.
Музычэнка Андрэй Мікал.
Ашуева Вера Яўгенаўна
Вінаградаў Віталь
Рабыкін Аляксандр
Герасімцова Галіна
Кузьменкоў Генадзь Адамавіч
Казлоўскі Алег Феліксавіч
Яцкевіч Уладзімір Антонавіч
Прымака Васіль Дзмітрыевіч
Бяляева Кацярына Уладзімір.
Заіка Зоя Міхайлаўна Дацэнт
Самуйлік Яўген Рыгоравіч
Аляхновіч Мікалай Мікал.
Барысюк Уладзімір Уладзім.
Кісель Таццяна Аляксандр.
Бучына Марыя Віктараўна
Лабоха Канстанцін Валянцін.
Роўкач Андрэй
Шыман Дзмітрый Валянцін.
Міляшкевіч Яраслаў Генрых.
Гурская Людміла
Дзянісаў Гальляш
Дуброўская Наталля
Малаш Юры Леанідавіч
Кашчэева Людміла
Драздоў Уладзімір
Міхалева Варвара
Савуліч Мікалай
Рудак Таццяна
Прышчыц Валянціна Сцяпан.
Чайка Сяргей
Бакіноўскі Валянцін
Барысаў Лявон Аляксеевіч
Грузнова Тамара Іванаўна
Магалінскі Ігар Уладзімір.
Казак Сяргей Іванавіч
Капарыха Мікола
Лазюк Аляксандр
Антанюк Ян
Багданкевіч Святлана Мікал.
Шаклач Таццяна
Мускі Барыс Георгіевіч
Кізееў Ігар
Рабянок Дзяніс
Мароз Аксана Пятроўна
Цяцёркін Мікалай Яўгенавіч
Алесіна Ганна Міхайлаўна
Дранжкевіч Марыя
Фядотаў Феакціст
Краўчук Ала
Кніга Галіна
Антаноўскі Мікалай
Паплеўка Юлія Юр'еўна
Гіль Юры
Коласава Алена Аляксандр.
Герасёва Таццяна Андрэеўна
Сяргейчык Аляксей Мікал.
Муша Уладзімір Мікалаевіч
Галавач Яўген пенсіянер,
Доўнар Павал Віктаравіч
Белы Павел Аляксандравіч
Фёдарава Вольга Дзмітр.
Масакоўскі Уладзімір Генадз.
Федаровіч Святлана Міхайл.
Гільвей Валянціна
Грышкевіч Лявон Іосіфавіч
Гарбачова Тамара Валер.
Шыбека Аляксандр Сяргеев.
Бечка Антон Вацлававіч
Красоўскі Лявон Мікалаевіч
Жынь Канстанцін Уладзімір.
Домаш Сямён Мікалаевіч
Кліменценка Святлана Ульян.
Семянчук Альбіна
Каяла Уладзімір Іванавіч
Руцкая А.В.
Ліцкевіч Наталля
Чарных Наталля
Калядка Іна
Крол Вера Сяргееўна
Гаравы Марат
Карэнька Людміла Мікал.
Бяліцкая Ганна Сцяпанаўна
Рамановіч Вераніка
Бурбоўская Алена Уладзімір.
Раковіч Аксана Уладзіміраўна
Судак Вікторыя
Гайдук Марыя
Маляўка Марыя
Грэбень Раіса Выкладчык
Мішкель Станіслаў
Булыга Міхаіл Варатынская
Галіна Аляксандраўна
Хамец Міхась Дзмітрыевіч
Хадановіч Маргарыта Міх.
Нікіцін Аляксандр
Кучынская Галіна Іванаўна
Лысы Аляксандр Уладзімір.
Янушкевіч Леанід
Гарановіч Віталь Рыгоравіч
Барткевіч Таццяна Фёдараўна
Казак Валянціна
Лукашэнка Антон Уладзімір.
Крыж Сяргей Аляксандравіч
Снітко Тамара
Швец Алена
Шыманец Алена
Палубінская З. Г.
Украінка Сяргей Сяргеевіч
Клімуць Яраслаў Іванавіч
Панізовіч Марат Яфімавіч
Ларычаў Алег Васільевіч
Лобан Павел Міхайлавіч
Карповіч Уладзімір Леанід.
Батуеў Павел
Батура Вольга Іванаўна
Пісарэнка Аляксандр Васіл.
Тычына Міхась Адамавіч
Казак Міхась Мікалаевіч
Малышка Іпаліт Міхайлавіч
Царкова Ніна Канстанцінаўна
Мільнова Таццяна Мікал.
Анціпенка Лявон Міхайлавіч

## Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 50

1. Тост
2 (угару). Стол
2 (уніз). Сонца
3. Віза
4. Прыз
5. Ігнат
6 (у гару). Мароз
6 (у ніз). Месяц
7. Канькі
8. Агат
9. Госці
10. Аксіння
11. Свякруха
12. Каньяк
13. Пост
14. Розвальні
15. Порцік
16. Каласавіны
17. Ялінка
18. Новік
19. Маладзік
20. Салямі
21. Рунь
22. Марцін
23. Шаля
24. Весялуха
25. Калядкі
26. Карнавал
27. Звяно
28. Балясіна
29. Старонка
30. Лапці
31 (у гару). Конь
31 (у ніз). Кот
32. Загнетава
33. Божа

*Алег Лойка*

# Калінай свет украшаючы...

Найпершымі дзяўчатамі. якіх я вылучыў ва ўніверсітэце, калі ў 1948 годзе паступіў на беларускае аддзяленне філфака, былі Рагнеда Грышкевіч і Іра Крэнь. Чаму першаю называю Рагнеду? Таму, што ў гэтай пары з Гарадзішчанскай СШ Баранавіцкай вобласці верхаводзіла Грышкевіч. Адну школу з імі канчаў Віктар Говар, і, хоць ён паступіў на журфак, поруч са сваімі аднакласніцамі быў амаль штодня. і хлопцам з філфака здавалася, што ці Рагнеда, ці Іра абранніцы яго сэрца. З першага курса ўсе дзяўчаты хутка даведаліся, што ў мяне ёсць абранніца ў школе, але вельмі хутка я ўчуў, што ўрад ці Ліля – дабраная пара, што ў параўнанне з Рагнедай няма каго і ставіць, што няўжо я не бачу, што за дзяўчына Рагнеда? У Іры. як гаворыцца між цётак, і жаба на языку спячэцца. Яе адкрытасць, непасрэднасць адразу заўважалася, яна, што думала, з тым не хавалася, тое гаварыла са ўсёй шчырасцю, без ніякіх хітрыкаў, ніякіх абгавораў не баючыся. Сяброўку Рагнеду ставіла куды вышэй за сябе, на сябе не вельмі зважала. Не відаць было, што камусьці спадабацца, вылучыцца хоча. Сама сябе проста асуджала. каб быць у цені, мала. абсалютна сябе неганаруючы. нібы асудзіўшы сама сябе на другасць. саму сябе другаснай лічачы. Вядома. у цэлым яе асоба была праявай сціпласці. можа. і недаацэнкі сябе, хоць не сказаць. што ў сваім трыманні сябе яна была мэтанакіраванай. сабою спрацыраванай. Проста была. якою была, за нейкімі ўборамі не падаючы, нічым знешне сябе не прыхарошваючы, брывей не падводзячы, нібы ў люстэрка ніколі не пазіраючы. Можна было падумаць. што крыху і неахайнай была, абыякавай, — ніякай галантнасці. а, наадварот, абыякавасць. пасрэднасць.

Вучылася яна сапраўды не так бліскуча, як Рагнеда, не так маладосцю сваёй ззяла, чарняўка, чорныя. чорныя вялікія вочы. Няхай Рагнеда была ростам меншая, рысы твару дробныя, ды блакіт вачэй яе ззяў задзёрыста, ганарыстасць характару праяўлялася ў звонкім голасе, у валадарнасці рухаў, задраным носіку, завітушках бландзіністай прычоскі. Вершы пісалі абедзве, але ў Рагнеды інтанацыі былі валявымі, паэтычнымі знаходкамі стыль пабліскваў, а тон вершаў Іры быў млявасцю блізкі да масавай паэзіі нашаніўства, шматслоўнасці хапала, зацягнутасці, гладкапісу.

Адразу першакурснікамі мы хлынулі ў літгурток, якім кіраваў Юльян Сяргеевіч Пшыркоў, за два гады выдалі два альманахі "Маладыя сілы", рыхтавалі трэці. Рэдактарам Юльян Сяргеевіч зрабіў мяне, і тут я ўжо не мог не праяўляць да нашых паэтак большай увагі. і я наперадзе ставіў Рагнеду Грышкевіч, і як рэдактар ужо адчуў гультаяватасць Іры Крэнь. бо выпрошваць у яе вершы прыходзілася доўга.

І было, што вершы даволі рэзка выяўлялі стрыжнявое ў характары дзвюх сяброўак і асабліва Іры Крэнь у яе жаласлівасці, спагаднасці, лагоднасці, неймавернасці перажыванняў за нягоды, крыўды, абразы, ману. Настроі Іры былі не сацрэалістычныя, а жыццёвыя, спачувальныя, чулыя на боль іншых, поўныя літасці. Чуллівасць Іры была проста надзвычайная, нейкая народна-жаноцкая, аголенага сэрца, поўнага параненасці, слабліваcці, слязлівасці. І менавіта гэтая ўражлівасць, празмерная пачуццёвасць, чуллівасць былі асноўнымі рысамі яе характару, яны не далі поспеху ў паэзіі Іры Крэнь, але яны пачаткавалі яго ў спробах яе пяра як празаіка.

Вось я цяпер не магу сказаць, што ў жыцці Іра кагось любіла, кагось кахала. Выскачыла яна пасля пятага курса замуж нечакана, і, відаць, больш з-за жаласці да Мікалая Вераб'я, чым з-за любові-кахання. Былы партызан, паляшук Мікола Верабей быў з пакалечанаю леваю рукою, параненаю ў партызанах. Тры гады я жыў у інтэрнаце на Нямізе. 21. і тры гады здзіўляўся ўсмешлівасці сініх вачэй Вераб'я-аспіранта, аспіранта-паляўнічага: о. колькі зайцоў ён патрашыў у двары Нямігі, 21, гэта мы бачылі, здзіўляліся ўсе тры зімы агульнажыцця на Нямізе.

Паступіўшы ў аспірантуру, я даведваюся пра замужства Іры. якое здалося раптоўным, нечаканым, але разам з гэтай раптоўнасцю, нечаканасцю адчынілася новая старонка маіх стасункаў з маладажонамі. Міколе Вераб'ю пашанцавала, бо як малады палітэконам, былы партызан, інвалід ён атрымаў кватэру на праспекце Сталіна, 12, двухпакаёвую: велізарнейшыя два пакоі, вялізная кухня. Ірына ў сваёй спагадлівасці, сяброўскасці, спатыкаючы на праспекце сваіх аднакурснікаў, не магла не клікаць нас да сябе, і я, відаць, быў адным з першых, каго яна ў свае проста царскія апартаменты запрасіла. Колькі разоў я быў у Вераб'ёў аспірантам, а яшчэ больш, калі абараніў кандыдацкую. Не злічыць. Божа! Якія светлыя гадзіны, часіны перажыў я на праспекце ў Ірыны! То ж дзе я зрабіў банкет пасля абароны кандыдацкай дысертацыі?. У Вераб'ёў, канешне, у Ірыны. Дзе начавалі мае бацькі пасля абароны мной 29 мая 1956 года дысертацыі? У Вераб'ёў, у Ірыны. Дзе ж я начаваў не адну ночку са сваёй Ліляй, перш чым знайшоў прыватную кватэру на вуліцы Палескай, 12? У Вераб'ёў, у Ірыны, пад 12 нумарам на праспекце. Ірына Платонаўна ўпадабала ж, палюбіла маю Лілю, і то ж праз год, два стала госцем на Лабазоўцы ў Слоніме, гасціла адно лета цэлы месяц у Лілінай цёткі Анюты. Хатка стаяла на самюткім беразе Шчары, Іра з ранку да вечара прападала непадалёк ад Лабазоўкі на лугавінцы – злева алешнік, справа палавела на той год высокае-высокае калгаснае жыта, жаўрукамі яна заслухоўвалася, васількамі застаўляла сталы, вокны цёткі Анюты. З Мікалаем мы днямі прападалі ў грыбах, нямала і рыбкі палавілі, асабліва пасля таго, як на простую вудачку Мікалай падчапіў нічога сабе шчупачка.

Але спецыяльна больш я хацеў бы яшчэ сказаць пра жаллівасць і чуласць Іры. Пра чуласць у сувязі з сустрэчай у яе на праспекце з бацькам Іры Платонам. Прозвішча Платона Крэнь я памятаў з часоў нямецкай акупацыі па "Баранавіцкай газеце". Бацька Іры друкаваў вершы. якія мне падабаліся – патрыятычныя, гумарыстычныя. Пра лёс бацькі расказвала Ірына да сустрэчы ў яе з яе бацькам. Ён. афіцэр, быў сярод тых, хто на караблях уцякаў з Крыма ў Турцыю, быў белаэмігрантам у Еўропе. Да 1930 года, калі нарадзілася дачка Іра, не забыўся, як і вярнуўшыся ў Беларусь паваенную, помніў жахі грамадзянскай вайны. савецкіх лагераў.



*1983 г. Сустрэча выпускнікоў філфака БДУ праз 30 гадоў. У першым радзе, у цэнтры, Ірына Крэнь, першы справа Алег Лойка.*

Пра надта чуллівыя Ірыніны дні я памятаю асабліва пасля першамайскай трагедыі Віктара Говара. Гэта спагадлівая чуласць зрадніла ў БДУ філфакаўку Крэнь і студэнтку з біяфака дачку расійскага пісьменніка Арцёма Вясёлага. Ягоную "Гуляй Волгу" Крэнь дала мне чытаць у, так сказаць, падпольныя часы. Радавалася, што дачку Арцёма Вясёлага Волгу пакахаў Віктар Говар і проста жахліва пакутавала, калі Волга, нарадзіўшы Віктару дачку, з роддома не выйшла...

...Увогуле Мікалай рыбаком быў не вельмі, а паляўнічым сапраўды выдатным. Каторы год ішоў ужо нашай прыязнасці, сёння не скажу, але што гэта было ў год спадарожніка, у жніўні месяцы, і сагітаваў я тады Мікалая плыць на лодцы праз Налібокі па рацэ Заходняй Бярозе да Нёмана. Плылі мы ў адной лодцы ўтрох: валадаром лодкі быў Пётр Сцяпанавіч Закржэўскі са Слоніма, дырэктар БСШ № 1, якую я ў 1948 годзе канчаў. Плылі мы, стартаваўшы на Бярозе па шашы каля вёскі Саковічы, радзімы Віктара Каваленкі. Ад Баштаў, дзе ў Бярозу ўпадае Ісlач, мы плылі тыдзень. У гэты тыдзень мне ўрэзаўся ў памяць, калі адным днём Мікалай падстрэліў аж тры качкі. Скубла іх нас трох, кожны сваю, вечарам у кастры ў адным вядры аж тры тыя качкі па-паляўнічы мы смажылі, не мы, а, канешне, ён: сала – дно закрылі, над салам – цыбулі. на цыбулі – рэзаная морква. тады тры качыныя арматуры, тады – бульба. колькі ўлезла і яшчэ залівалі смятанай, каб з агнявіска дымнага ў вядры ўсё перавярнуць з дна да пакрышкі. Мікалай умеў страляць, але і паляўнічая яго кухня была верхам асалоды!

А ўвогуле дацэнт Мікалай Васільевіч Верабей у студэнтаў быў слынны, ды. праўда, пасля маіх пэўных з Ірай захадаў, славу ён займеў і іншую. У зале галоўнага корпуса БДУ выступаў тады сам Мазураў. Да гэтага, праўда, выступіў у "Полымі" дацэнт М. Верабей з артыкулам, у якім паказваў адзін з матэрыялаў у дарэвалюцыйнай, віленскай "Нашай Ніве", як пераказ аднаго з артыкулаў Уладзіміра Ільіча Леніна. Буржуазна-нацыяналістычная "Наша Ніва" (яе толькі так тады кваліфікавалі абэцадарскія) і Ленін, быць жа такога не можа, і хоць такое знайшоў Мікола Верабей, а я з Ірай былі сярод тых. хто даводзіў яго адкрыццё да "Полымя", не ведаю, хто даводзіў даклад К.Т. Мазурава да яго канчатковай рэдакцыі. якую і агучваў першы сакратар ЦК Беларусі ў БДУ, дастаючы сваёй дасціпнасцю два "птушыныя" прозвішчы: дацэнта Вераб'я і тагачаснага сакратара ЦК па ідэалогіі Буслава. У выступленні К.Т.Мазурава было: "Калі буслы дрэмлюць. вераб'і чырыкаюць!" Сам дацэнт Верабей з тых слоў толькі хітравата пасміхаўся і ні на каго не крыўдзіўся, што нехта яго падвёў. А мы з Ірай не суцішалі яго, бо вераб'іны ўзлёт у "Полымі" быў высокім і пачэсным.

Узлётам Ірыны Крэнь быў і яе празаічны дэбют у "Маладосці" апавяданнем пра Чабатара. Увогуле яе апавяданняў з дзесяць, а, можа, і болей я чытаў у чарнавіках. Я хваліў, я падтрымліваў, даючы пэўныя парады на дапрацоўку. але. на жаль. дапрацовак я не дачэкаўся. гультайкай не раз свянціў яе. але зрухаў далейшых так і не наступала.

Наступала, на жаль, іншае, горшае: Іра кінула Колю. развялася з ім. Гаварыла мне. што застала Мікалая з аспіранткай і яе асуджэнне ўчынка мужа было рэзкім. беспаваротным. Я пасля таго з Ірай і Мікалаем страчаўся рэдка, хоць сябрамі мы засталіся заўсёднымі.

Успомню яшчэ адзін факт: падрыхтоўку да 50-годдзя БДУ анталогіі "Універсітэт паэтычны". Вершаў, фатаграфіі я прасіў і ў Рагнеды Грышкевіч, і ў Іры Крэнь. Засталася ў маім архіве карэктура анталогіі, у якой былі і вершы, і фатаграфіі маіх слаўных аднакурсніцаў. У главуліце іх знялі, каб узнавіць іх, каб яны засталіся ў анталогіі, я з нізкаю просьбай падаўся да Анатоля Фамічова, які быў тады намеснікам міністра, з якім мяне знаёмілі і сама Ірына Крэнь, і Мікола Верабей. які быў закадычным сябрам Фамічова, цераз якога і я заўважаў. стаў сябрам Фамічова, падзяляючы Ірыніну жаласць да яго. ад якога ў палюбоўніцы да Аркадзя Куляшова пайшла ягоная жонка, пакінуўшы яму на выхаванне двух сыноў, якіх ён самаадданa выхоўваў, за што перада мною сябра свайго мужа Іра вельмі не раз хваліла. Ніякія, аднак, мае просьбы аб захаванні ў анталогіі асоб Рагнеды Грышкевіч і Ірыны Крэнь не дапамаглі...

Ірына пасля разводу з Мікалаем зблізілася з друкам, духоўна падтрымлівала БНФ. Аднойчы і я сутыкнуўся з ёю на бээнэфаўскай дэманстрацыі. Аднойчы, памятаю, Іра прасіла ў мяне вершаў для публікацыі, спрычыньвалася да публікацыі маіх вершаў і хораша ставілася да іх

Рагнеда Грышкевіч выйшла замуж за земляка-урача Аляхновіча. У Іры была адна дачка Лена, якую вельмі песціў яе бацька Мікалай; у Рагнеды вырасла дзве дачкі. Сапраўды працаўніцай на ніве беларускай педагогікі стала Рагнеда Грышкевіч, дзве яе кніжкі ёсць у маёй бібліятэцы і вялізная таміна пра жыццё яе бацькі, прафесара Вікенція Жук-Грышкевіча. З-за бацькі Рагнеду пасля заканчэння другога курса з БДУ выкінулі. Яна неяк узнавіла вучобу ў педінстытуце.

Зноў жа не магу не сказаць, як я некалькі разоў яшчэ студэнтам, аспірантам хадзіў да Аляхновічаў на Красівую (ці Слонімскую) вуліцу з просьбай перадусім ад Максіма Танка, каб вярнуць Рагнеду Грышкевіч да напісання вершаў. Браў з сабой, чытаў ёй новыя вершы, але іх слабіна не вельмі паспрыяла мне, каб вялікая наша паэзія не згубіла паэтычны талент. Час мяняўся, але Рагнеда ў сваёй упартасці не пісаць не мянялася....

Зборнікаў сваіх Рагнедзе я не падпісваў, але не адну кнігу падпісаў Іры Крэнь. Хіба гэта свой зборнік – першы, 1959 года, "На юначым шляху" – я падпісваў Іры так ці накшталт гэтага:

*Каб твайму сэрцу,*
*Моцы, сілы,*
*Ты б, як каліна,*
*Свет увесь закрасіла!.*

Сапраўды, Ірына Крэнь шчыра скрашвала маладосць маю, жыццё мае!..





## СЯРГЕЙ ЗАПРУДСКІ:

# "АДАМ МАЛЬДЗІС У БЕЛАРУСІ АДЗІН"

***Міжнародная асацыяцыя беларусістаў падрыхтавала і выдала вялікі том артыкулаў, прысвечаных 75-годдзю стваральніка і шматгадовага кіраўніка гэтае грамадскае арганізацыі прафесара Адама Мальдзіса. "Беларусь і беларусы ў прасторы і часе" – так называецца зборнік, які не мае аналагаў у гісторыі айчыннага кнігавыдання. З адным з ягоных складальнікаў і рэдактараў, старшынём Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Сяргеем Запрудскім гутарыць Валянціна Аксак.***

**Валянціна Аксак**: "Спадар Запрудскі, чаму не кнігай самога юбіляра, а зборнікам артыкулаў у ягоны гонар Міжнародная асацыяцыя беларусістаў вырашыла адзначыць 75-годдзе прафесара Адама Мальдзіса?"

**Сяргей Запрудскі**: "Я павінен сказаць, што кніга самога юбіляра таксама выдадзеная. Яна літаральна днямі з'явілася ў кнігарнях. Выдавецтва "Беларускі кнігазбор" выпусціла том выбраных працаў Адама Восіпавіча. Гэта па-першае. Па-другое, хоць традыцыя выдаваць адмысловыя кнігі на ўшанаванне выдатных асобаў у Беларусі не вельмі развітая, тым не менш, яна існуе з савецкіх часоў. А ў цэлым, калі гаварыць пра такога тыпу зборнікі, то для навуковых супольнасцяў гэта вельмі традыцыйная рэч. Як толькі надыходзіць пара пэўных юбілеяў, шаноўныя навукоўцы атрымліваюць такія зборнікі, укладзеныя іх вучнямі".

**Аксак**: "На вокладцы зборніка ў гонар Адама Мальдзіса напісана "Беларусь і беларусы ў прасторы і часе". Чаму кніга называецца крыху абстрагавана ад імя асобы, якой прысвечана?"

**Запрудскі**: "Я хачу вам сказаць, што ў нас было толькі два варыянты. І адзін з іх – "Чалавек Адраджэння", па назве ўступнага эсэ Людмілы Рублеўскай. Але назвы такога тыпу кніг павінны быць навуковымі, а "Чалавек Адраджэння" – гэта пэўны вобраз. Акрамя таго гісторыкі гавораць, што сэнс слова "адраджэнне" па-рознаму можна разумець. Калі ж гаворка ідзе пра назву "Беларусь і беларусы ў прасторы і часе", то, на маю думку, такая назва вельмі моцна асацыюецца з асобай юбіляра. Юбіляр вельмі шмат зрабіў для таго, каб мы зразумелі, што сабой уяўляе Беларусь паміж Польшчай, Расеяй, Украінай, Літвой, Японіяй, Францыяй, Злучанымі Штатамі Амерыкі, Вялікабрытаніяй. І тое самае ён зрабіў, каб мы зразумелі, што такое Беларусь у часе. Ягонае васямнаццатае стагоддзе, па якім ён пісаў дысертацыю, дзевятнаццатае, якім ён вельмі шмат займаўся, яго кніга пра Ўладзіміра Караткевіча і бягучая літаратурная крытыка, якой ён займаўся і займаецца, – дваццатае стагоддзе. Таму, на маю думку, назва адпавядае нашаму герою".

**Аксак**: "Зборнік мае пяць раздзелаў, і толькі першы з іх утрымлівае артыкулы, біяграфічныя эсэ і вершы, прысвечаныя непасрэдна слыннаму даследчыку беларускае літаратуры і культуры. Ён і называецца Maldzisiana. Астатнія раздзелы складзеныя з розных артыкулаў, прысвечаных праблемам культуры старажаытнай, новай і найноўшай Беларусі. Чым выклікана выданне пад адной вокладкаю такіх розных публікацыяў?"

**Запрудскі**: "Калі гаворка ідзе пра артыкулы, прысвечаныя самому юбіляру, то іх у нас тут адзінаццаць. Я б сказаў, што мы нават больш змясцілі такіх артыкулаў, чым звычайна прынята ў такіх выданнях. А асноўная частка такога тыпу зборнікаў – гэта ўласна навуковая частка. І калі вы лічыце, што гэтыя публікацыі вельмі розныя, то я думаю, што яны адлюстроўваюць вельмі разнастайныя зацікаўленні Адама Восіпавіча. Прычым некаторыя артыкулы зусім непасрэдна апялююць да працаў самога Адама Восіпавіча, маюць спасылкі на яго працы. Такія зборнікі маюць вельмі разнастайныя мэты: каб былі прадстаўленыя розныя краіны, каб былі прадстаўленыя сябры юбіляра. І неабавязкова, што нейкі ягоны сябра займаецца такой жа праблематыкай, як ён сам".

**Аксак**: "Вы згадалі розныя краіны. Гэтае выданне, сапраўды, шматмоўнае. Артыкулы пададзеныя па-беларуску, па-польску, па-расейску, па-нямецку, па-ангельску. Яны надрукаваныя на мове арыгіналу напісаньня, так? І на якога чытача-паліглёта ў такім разе разлічанае гэтае выданне?"

**Запрудскі**: "Шматмоўнасць зборніка была абумоўлена дзвюма прычынамі. Першая – тэхнічная. Мы даволі мала часу далі нашым замежным калегам на падрыхтоўку публікацый, і ў такім разе нам было зручней папрасіць іх пісаць на мове іхняга выбару. Такім чынам мы атрымалі працы ангельца Арнольда МакМіліна, аўстрыйскай даследчыцы Монікі Баньковскі і іншых замежных калегаў. Калі б ставілі ім нейкія моўныя абмежаванні, у нас была б больш складаная сытуацыя. А з другога боку – гэта традыцыя выдання такіх зборнікаў. Я сам друкаваўся ў такіх зборніках за мяжой, і мне ніхто ніколі не выстаўляў моўных патрабаванняў. І мы разумеем, што чытачы падобных выданняў – навуковая, адукаваная публіка, якая хаця б па-польску ўмее чытаць. А калі гаворка ідзе пра іншыя мовы, то ў чытачоў будзе падстава перакласці ўпадабаных аўтараў на беларускую мову".

**Аксак**: "Не магу ўстрымацца ад пытання пра тое, каму наступнаму Міжнародная асацыяцыя беларусістаў рыхтуе такі падарунак, які яна зрабіла прафесару Мальдзісу?"

**Запрудскі**: "Баюся, што мне складана будзе адказаць на гэтае пытанне. У прадмове мы напісалі, што гэта першы ў нас выпадак, калі кніга прысвячаецца аўтару, які цяпер актыўна працуе. А Адам Восіпавіч Мальдзіс у Беларусі такі адзін. Раней Міжнародная асацыяцыя беларусістаў выдавала кнігі, прысвечаныя гістарычным класікам."

# Дыпламаты Ізраіля і Швецыі прынятыя ў Саюз пісьменнікаў

Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў 20 снежня на чарговым пасяджэнні пастанавіла прыняць у ганаровыя сябры сваёй арганізацыі двух дыпламатаў, акрэдытаваных у Беларусі. Гэта амбасадар дзяржавы Ізраіль Зэеў Бен Ар'е і кіраўнік дыпламатычнай місіі каралеўства Швецыя Стэфан Эрыксан.

Сваё рашэнне Рада аргументавала тым, што названыя дыпламаты актыўна цікавяцца літаратурай краіны, у якой знаходзяцца, і дзеля таго, каб чытаць яе ў арыгінале, вывучылі беларускую мову. Але самае галоўнае, што яны сталі прапагандыстамі беларускай літаратуры ў сваіх краінах. Спадары Зэеў Бен Ар'е і Стэфан Эрыксан пачалі перакладаць з арыгіналу творы беларускіх пісьменьнікаў на свае родныя мовы.

Дзякуючы Зэеву Бен Ар'е ўпершыню загучалі на мове іўрыт творы Васіля Быкава, адзін з якіх — апавяданне "Бедныя людзі" — ужо надрукаваны ва ўплывовым ізраільскім часопісе "Дах".

На шведскую мову творы Васіля Быкава перакладаліся за савецкім часам, але то былі пераклады з расейскай. Стэфан Эрыксан упершыню пераклаў некалькі апавяданьняў Васіля Быкава непасрэдна з мовы арыгіналу.

*Валянціна Аксак.*

## ВАСІЛЬ ЗУЁНАК:

# "БЕЛАРУС ЖЫВУЧЫ КРОПЛЯЙ БАЛЦКАЙ КРЫВІ"




Паэт Васіль Зуёнак у № 30 часопіса "Дзеяслоў" апублікаваў эсэ "Гукаючы слова, або Рыфма – гучная сяброўка", якое можна разглядаць як першую ў айчынным літаратуразнаўстве спробу даследаваць генэзіс беларускай рыфмы. Разам з аўтарам у эсэ ўчытаўся Міхась Скобла.

**Міхась Скобла**: "Спадар Васіль, самыя старажытныя творы ўсясветнай паэзіі напісаныя без рыфмы, гэта значыць, яна з'явілася пазней. Калі ж упершыню рыфма прыйшла ў старабеларускае прыгожае пісьменства?"

**Васіль Зуёнак**: "У беларусаў, як і ў іншых славянаў, рыфма з'явілася адносна нядаўна. Але сама па сабе рыфма старажытная. Яе радавод сягае ажно ў антычны свет. А з'явілася яна ў другім тысячагоддзьдзі да нашай эры ў старажытным Кітаі. Адтуль яна перайшла ў арабскі свет, яшчэ даісламскі. А арабы прынеслі рыфму ў Эўропу, у латыні пачала рыфма трошкі ўжывацца пачынаючы з канца 16-га стагоддзя. У народнай паэзіі яна жыла намнога раней. У Бібліі таксама можна рыфму знайсці. Але гэта не класічная рыфма. Там сугучнае слова ўсплывала, каб нейкую думку падкрэсліць".

**Скобла**: "Не ведаю лепшай рыфмы, чымся ў народнай паэзіі: "*А ў яго дачка – як ягадачка!* Ніякі паэт такой не прыдумае."

**Зуёнак**: "Ніл Гілевіч даследаваў народную творчасць, і ў ягоным даследаванні ёсць цэлы раздзел, прысвечаны рыфме. Там такія рыфмы! Сапраўды, паэтам і не сніліся! Настолькі каларытныя: *рэдзенька – сярэдзінка, без кубла – не скубла, гаспадар – распрадаў*..."

**Скобла**: "Сучасная еўрапейская паэзія на захад ад Беларусі амаль адмовілася ад рыфмы. Ці пойдуць гэтым шляхам беларускія паэты?"

**Зуёнак**: "Тут цяжка быць аракулам. Але калі наша паэзія пачне адмаўляць рыфму, то гэта шлях бесперспектыўны, тупіковы. У нас мова настолькі багатая, настолькі гнуткая, што рыфмаваць можна з незвычайнай вынаходлівасцю... А нямецкая ці ангельская мовы скоўваюць паэтаў. І яны гэта адчуваюць, таму і цураюцца рыфмы. Але рыфма жыве толькі ў сваёй мове. Гэта ведаюць паэты, якія зазналі на сабе горыч перакладу на іншыя мовы".

**Скобла**: "Часам беларускія паэты верлібр перакладаюць рыфмаваным вершам. Прыклад – пераклад Ніны Мацяш з Анакрэона (праўда, пры пасярэдніцтве Рансара). Ці дапушчальна гэтак рабіць?"

**Зуёнак**: "Думаю, што не. Ці Анакрэона, ці некага іншага – паэта трэба захоўваць ва ўсёй ягонай адметнасці і веліччы. Трэба, каб Анакрэон Анакрэонам і заставаўся. Не трэба абсучасніваць. Для перакладчыка павінен быць Богам арыгінал. А з Богам жартаваць я не раю. Мы гаварылі пра тое, што нерыфмаваныя вершы рыфмуюцца, а бывае наадварот – нашу рыфмаваную паэзію на Захадзе перакладаюць вэрлібрам. Гэта яшчэ горш".

**Скобла**: "А хто ў беларускай паэзіі самы непераўзыдзены рыфмар? У каго рыфма самая арыгінальная?"

**Зуёнак**: "Тут я б вылучыў адну са школаў. Запачаткаваў яе Максім Багдановіч, развілі гэты кірунак Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча, Пімен Панчанка, Рыгор Барадулін, Пятрусь Макаль. А самая арыгінальная рыфма хіба ў Панчанкі. Ён знаходзіў такія нечаканыя сугуччы! Памятаеце, у Ясеніна: "Шагане ты моя, Шагане..." А ў Панчанкі ў яго "Іранскім дзённіку": "Гарачымі вачыма з-пад чадры іранка шугане – мімаволі ты прашэпчаш імя, чутае калісьці – "Шаганэ". І вось, зноў жа, жыццё гэтай рыфмы толькі ў беларускай мове".

**Скобла**: "Ведаю, што адрасу два беларускія паэты – Алег Мінкін у Вільні і Сяржук Сокалаў-Воюш у Нью-Ёрку – складаюць слоўнікі рыфмаў. Ці не безнадзейная гэта справа?"

**Зуёнак**: "Тут сапраўды праца можа цягнуцца бясконца. Практычнага сэнсу гэтыя слоўнікі не маюць, нельга ж навучыцца пісаць па слоўніку вершы. А вось для філалагічных нейкіх вышукаў яны спатрэбяцца. Слоўнік рыфмаў пакажа багацці і магчымасці мовы. Дадамо, аднак што ў наш кампутарны час, відаць, лепш за чалавека і хутчэй склаў бы слоўнік рыфмаў кампутар, калі яму задаць адпаведную праграму".

*Васіль Зуёнак*

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

* * *

Балоты, балоты… Балты…
Адно ў адным, як замес.
Тысячагоддзяў гвалты,
А балт – не памёр,
не ўваскрэс.

А балт жывы, неўміручы,
Сам Бог так сказаў:
"Жыві!"
Тым беларус і жывучы –
Кропляй балцкай крыві!

* * *

Чытаю вершы Зянона,
Як музыку фартэп'янную.
Слухаю слова, натхнёнае
Радзімаю адабранай.

Ляцяць Пагоняй агністаю
Этуды –
прысуды праблудам,
Як "Разьвітаньне…"
Агінскага,
Як "Быў. Ёсьць. Буду".

* * *

Самазванцы дваццаць
першага стагоддзя, –
Вы адкуль і вы чые сыны?
Прарастаюць
з семені бязроддзя
На здзічэлым полі палыны.

Самародцы дваццаць
першага стагоддзя,
Прыкарытнай велічы чыны.
Ля карыта свой
свайго і плодзіць:
Лыч у лыч,
з калыскі да труны.

Самахвальцы дваццаць
першага стагоддзя,
Казак дзіўных тэлебаюны…
Ды чамусьці
моўчкі абыходзіць
Будучыня вашыя званы.

Самаўладцы дваццаць
першага стагоддзя,
Шулы вэртыкальнае маны, –
Хто душу народу
адгародзіць
Ад уладнай шулерскай маны?

* * *

З народам сваім, я
к з лёсам сваім,
Стаю на вякоў скрыжаванні.
Як ён ува мне, так і я у ім,
Над безданню выжывання.

Калі гляджу
на прасторы нябёс
З палётам мар-аблачынак,
Ці згадваю
Начы разлівісты плёс
З нерастам шчупачыным,

Калі чытаю старонкі палёў,
Ці думаю думы лясныя,
Ці слухаю памяць
сівых камянёў, —
Як сэрца балюча ные!

Зямля мая, маці мая, няўжо
Мы лёс такі заслужылі,
Што будзем думаць
на мове чужой
І песні спяваць чужыя?..

# “Бедныя людзі” Васіля Быкава загучалі на іўрыце

У Менску адбылася прэзентацыя перакладу апавядання Васіля Быкава “Бедныя людзі” на іўрыт. Пераклад зрабіў амбасадар Ізраіля ў Беларусі Зэеў Бэн Ар’е. На літаратурнай вечарыне выступілі вядомыя беларуския пісьменнікі і гучаў голас Васіля Быкава.

- Я вельмі хачу, каб мы сёння пагаварылі пра Быкава, пра габрэйска-беларускія сувязі ў літаратуры, аб перакладзе. Каб пагаманілі вольна, у сваё задавальненне і ахвоту, - гэтак адкрыў вечарыну амбасадар Ізраіля ў Беларусі **Зэеў Бэн Ар’е**, прэзентуючы свой пераклад апавядання **Васіля Быкава** “Бедныя людзі”.

Чаму менавіта Васіль Быкаў і чаму гэта апавяданне сталі дэбютнымі ў справе, якую ён для сабе адкрыў – перакладзе на іўрыт беларускай літаратуры? Спадар Бэн Ар’е патлумачыў:

- Васіль Быкаў той пісьменнік, ад чытання якога застаецца глыбокае і непазбыўнае ўражанне.

А апавяданне “Бедныя людзі” ён лічыць адным з лепшых твораў Быкава пра сучаснае жыццё.

Урыўкі з “Бедных людзей” Васіля Быкава зачыталі на вечарыне: па-беларуску Аляксандр Памідораў, на іўрыце - Міра Мільштэйн.

“Не бойся госця, які сядзіць, а бойся таго, што стаіць. - Гэтая прыказка колькі разоў прыходзіла ў галаву гаспадара, пакуль ён стаяў ля дзвярэй кватэры, праводзячы спазнелага госця”.

Сюжэт апавядання просты: да прафесара Скавраша, якому, за недарэчныя выказванні пагражае выключэнне з Кампартыі, завітаў аспірант, каб супакоіць, прыбадзёрыць паважанага ім чалавека.

Слова за слова — пачалася шчырая гутарка, змест якой быў бы вельмі цікавы для кампетэнтных органаў. Але толькі аспірант Краснянскі сышоў, як прафесар задумаўся: ці не варта яму першаму паведаміць ў КДБ пра гэтую размову, якая пачалася не іначай як з правакацыйных мэтаў? Паведаміў...

Пісьменнік і ўлада, праўда і хлусня, данос і сяброўства... Гэтыя тэмы ўдзельнікі вечарыны закранал і ў сучасным кантэксце – як падставу для размовы пра мэты сённяшняга жыцця. Пісьменнік Валянцін Тарас згадаў, як у кампаніі з Васілём Быкавым яны шукалі месца, дзе б пасяброўску павячэраць, але не маглі пазбавіцца ад кампаньёна, якога падазравалі ў стукацтве. Урэшце зайшлі ў рэстарацыю разам з ім, а Васіль Быкаў потым вельмі па-чалавечы развітваўся з гэтым кампаньёнам.

Старшыня Саюзу пісьменьнікаў Беларусі **Алесь Пашкевіч** паведаміў прысутным, што сакратарыят саюзу будзе рэкамендаваць перакладчыка Зэева Бэн Ар’е да ўступлення ў саюз.

А спадар амбасадар падзяліўся такой статыстыкай: штогод у Ізраілі выдаецца 8 тысяч кніг, з іх 73% на іўрыце. “У Беларусі выдаюць 11 тысяч кніг, але толькі 7% па-беларуску”, — са шчырым шкадаваньнем зазначыў Зэеў Бэн Ар’е.

***Алег Груздзіловіч.***

# Знак павагі на вышэйшым узроўні

Не кожны дзень, месяц і нават год у музеі Васіля Быкава ў Гародні бываюць такія навед-вальнікі, што завіталі да нас у першай палове снежня. А былі гэта супрацоўнікі пасольства Ізраіля ў Беларусі начале з першым сакратаром пасольства Койфманам Ігалем.

Спадар Койфман Ігаль, агледзеўшы экспазіцыю музея і яго асобныя дакументальныя рэліквіі, цікавіўся менавіта гарадзенскім перыядам жыцця і творчасці пісьменніка. Затым ён перадаў музею часопіс ізраільскага Саюза пісьменнікаў “ГАГ”, што па беларуску азначае “ДАХ”, у якім надрукавана на іўрыце апавяданне Васіля Быкава “Бедныя людзі”.

І тут адметна тое, што пераклад яго з беларускай мовы на іўрыт зрабіў сам пасол Ізраіля ў Беларусі спадар Зэеў Бэн Ар’е. У перададзеным разам з часопісам суправаджальным лісце на гэты конт ён піша:

*“Паважаная дырэкцыя музея Васіля Быкава ў Гародні!*

*Маю гонар перадаць нумар часопіса ізраільскага Саюза пісьменнікаў “ГАГ” (“Дах”), дзе на староны 120-й надрукавана апавяданне Быкава “Бедныя людзі” на іўрыце. Пераклад зроблены мной у знак глыбокай павагі да творчасці Быкава, да беларускай літаратуры і незалежнасці Беларусі.*

*У хуткім часе чакаецца публікацыя яшчэ аднаго апавядання ў другім ізраільскім літаратурным часопісе “Мознаім” (“Вагі”), і я з задавальненнем перадам экзэмпляр і гэтага нумара ў ваш музей.*

*З павагаю*
*пасол Ізраіля ў Беларусі*
*Зэеў Бэн-Ар’е”*

Вось такі незвычайны экспанат-прыбытак у скарбонку пакуль сціплага музея Васіля Быкава ў Гародні напярэдадні Новага года. Ён несумненна сведчыць пра рост папулярнасці постаці Васіля Быкава ў свеце і праяўленне ўвагі і цікавасці да твораў нашага вялікага земляка-беларуса. Усё гэта нас, безумоўна, акрыляе і дае сілу на далейшую працу па ўвекавечанню яго памяці.

***Аляксей Дземідовіч.***

**На здымку:** Мікола Мельнікаў і Ігаль Койфман у музеі.

# Як святкуюць Каляды ў блізкім і далёкім свеце?



Свет сустракае Каляды разнастайнымі фестывалямі, святочнымі канцэртамі і балямі. Што цікавага адбылося на Каляды ў розных краінах свету?

**Вена** ўжо адкрыла сезон калядных баляў. Пасля доўгага перапынку аднавіўся Венскі фестываль музыкі часоў сярэднявечча і барока “Resonanzen”, тэма якога сёлета – “Імправізацыя, прадстаўленне, экстаз”. Праграма венскіх баляў традыцыйная: на пачатку – прывітальны кактэйль, пасля выступы артыстаў Венскай оперы і балета, банкет і танцы да 5 гадзін раніцы.

**У лонданскім Таўэры** на фестывалі “Сярэднявечныя каляды” можна пабачыць, як сустракалі Каляды пры каралеўскім двары Эдуарда I. А цяпер у Лондан збіраюцца самыя знакамітыя мімы, ілюзіяністы і танцоры з усяго свету – на самы вялікі ў свеце міжнародны фестываль “Mime” – фестываль пантамімы і цырку, дзе таксама выступаюць і тэатры пластыкі і балету. У ліку самых цікавых падзеяў фэсту – пластычная камедыя абсурду “Гэты цудоўны свет” французскага тэатра B.P.Zoom, музычна-пластычная кампазіцыя “Mozart Preposteroso!” брытанскага міма Ноля Раэ, акрабатычны спектакль французскай трупы “Collectif Petit Travers”.

**Па ўсёй Еўропе** на старых гарадскіх плошчах у сталіцах і невялікіх мястэчках – традыцыйныя калядныя кірмашы. На іх прыходзяць не толькі каб набыць калядныя падарункі, але і пачаставацца мясцовымі калядными ласункамі – гарачымі вафлямі, незвычайнымі аладкамі, калядным печавам, якое робіцца на вачах, гарачымі каштанамі і вустры-цамі, кілбаскамі і парсюкамі, засмажанымі цалкам на вогнішчы, і, вядома, півам і гарачым віном. На гэтых кірмашах таксама ладзяцца каткі, зімовыя атракцыёны, канцэрты і спектаклі.

Хаця сёлета каляднае надвор’е не пацешыла Еўропу снегам, у **Парыжы** сёлета Эйфелева вежа засыпаная снегам сантыметраў на трыццаць – праўда, штучным. Наведнікі ходзяць па гэтым глыбокім снезе ў снегаступах.

**Санта-Кляўс пасяліўся ў Азіі.**

А “Вялікі свет ільду і снегу” учора адкрыўся ў Кітаі – у чаканні Алімпіяды 2009. Гэта фестываль, для якога створаны парк на тэрыторыі 40 тысяч гектараў каля Харбіну. З сотняў тысячаў тон ільду і снегу зробленыя скульптуры, якія дэманструюць гісторыю Алімпіяды. У парку 6 пейзажных рэгіёнаў – у іх ліку, да прыкладу, рэгіён святога агню Алімпіяды і рэгіён пачуццяў аб Алімпіядзе – і ўсё гэта са снегу і льду.

І вось яшчэ цікавая калядная падзея з Азіі – хаця, як усім вядома, Санта-Клаўс жыве ў Ляпландыі, у Фінляндыі, ад сёлета ў яго з’явіцца, магчыма, яшчэ адно месца сталага жыхарства – гара ў **Кіргізстане**.

Шведская кампанія “Sweco”, якая займаецца лагістыкай і кансалтынгам, даказала, што Ферганскі хрыбет – ідэальнае месца для старту Санта-Клаўса, каб ён з найменшымі выдаткамі сіл аленяў і як мага хутчэй паспеў прывезці падарункі дзецям усяго свету.

Улады Кіргізстана паставіліся да гэтага сур’ёзна, перайменавалі вызначаную гару ў гонар Санта-Клаўса, распачалі там будаўніцтва яго новай рэзідэнцыі і наступны год у краіне абвясцілі годам Санта-Клаўса.

**У Прыбалтыцы – музыка і Калядны мір.**

Каляды сёння святкуюць бальшыня жыхароў **Польшчы і балтыйскіх краінаў**. У **віленскіх** касцёлах – калядны фестываль сакральнай і класічнай музыкі. Канцэрты, уваход на якія пераважна бясплатны, адбываюцца раніцай, удзень і ўвечары.

У адрэстаўраваным віленскім касцёле Святой Кацярыны, да прыкладу – канцэрты ісландскіх выканаўцаў і французскага шансону (праграма “Вулачкамі Манмартру”), а таксама – канцэрты беларускага гітарыста Ігара Дзедусенкі.

У **Латвіі** ўжо традыцыйна (трэці год запар) адбываецца фестываль “Еўрапейскія Каляды”. Адкрыўся фестываль у Домскім саборы ў Рызе французскімі творамі эпохі барока, а таксама музыкай французскага кампазітара-містыка Аліўе Мэсіяна. На фестывалі будуць выканаўцы і творы з розных еўрапейскіх краінаў.

У **Эстоніі**, як і яшчэ ў пяці краінах паўночнай Еўропы, Каляды пачаліся, як звычайна, з Каляднага міру, які ўчора абвясцілі мэр сталіцы з акна талінскай ратушы. Сярэднявечная традыцыя Каляднага міру трывае ад часоў шведскай каралевы Хрысціны. Калядны мір у Эстоніі працягваецца да дня Святога Канута, апекуна першай эстонскай гільдыі рамеснікаў (13 студзеня).

***Тацяна Поклад.***

***На здымку:*** *Каляды ў Багдадзе.*

*Рэдактар Станіслаў Суднік*

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 27 сакавіка 2007 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Т. саў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 26. 12. 2007 г. у 10.00. Замова № 2875.
Аб’ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1680 руб., 3 мес.- 5040 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.